22 сакавіка 2019 | № 11 (622)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144





**Невядомы галадамор**
Стар. 8

**4 У ПОШУКАХ ІДЭАЛЬНАГА БЕЛАРУСА**

Ці зможа чалавек, чыя «карціна свету» фармуецца з дапамогай двухдумства, пабудаваць сучасную «эканоміку ведаў»?

**5 «ДЫКТАТУРА НЕ БУДЗЕ БАРАНІЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ»**

Мы вырашылі спытаць заўсёднага наведвальніка пратэстных акцый, актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Максіма Вінярскага, што змянілася за апошні час у рэчышчы грамадскага супраціву і чаму ён дасюль гэтым займаецца

**6–7 СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ: «ДА НОВЫХ ЧАСОЎ ТРЭБА РЫХТАВАЦЦА»**

26 сакавіка пасля пэўнага перапынку ўзнаўляе працу «Інтэлектуальны клуб» Святланы Алексіевіч



**11 ЯК ВЯРТАЮЦЬ ІМЁНЫ БЕЛАРУСКІХ ПРАВЕДНІКАЎ**

Вайна ломіць законы маралі. Але ўсё ж былі і тыя, хто пад пагрозай сабе і сваім блізкім ратаваў людзей, якіх выраклі на знішчэнне

# Дзень Волі як страчаны шанц для дэмакратаў

**Усе зноў пасварыліся — і зноў з-за Дня Волі. Тым не менш, свята адбудзецца**



Таццяна ШАПУЦЬКА

Галоўная інтрыга сакавіка раскрытая — улады не дазволілі правесці святочныя мерапрыемствы да Дня Волі ні на адной з жаданых пляцовак.

Мінскія чыноўнікі дакладна выканалі загад Аляксандра Лукашэнкі не пускаць апазіцыю на адрэстаўраваны стадыён «Дынама», і нават пайшлі далей — забаранілі адзначаць 101-ю гадавіну БНР на леташняй пляцоўцы ля Опернага тэатра, у Верхнім горадзе і каля Палаца спорту. У якасці альтэрнатывы чыноўнікі прапанавалі некалькі пляцовак у мінскіх мікрараёнах, у тым ліку знакамітую і горача не любімую дэмакратамі плошчу Бангалор. Забаронамі ў нашай краіне ўжо нікога не здзівіць, але, відавочна, арганізатары чакалі іншых рашэнняў. Таму запаснога плану не аказалася.

Давялося спантанна прыдумляць выхад з няёмкага становішча. Абапіраючыся на шматгадовую практыку беларусаў сварыцца і раздзяляцца ў любых стрэсавых сітуацыях, арганізатары прыдумалі ажно два выхады: першыя — маладняк у асобах прадпрымальніка Паўла Белавуса ды блогера Эдуарда Пальчыса, а таксама БНФ, — вырашылі далучыцца да святкавання гадавіны БНР у Гродна. Зоркі гэтаму яўна спрыялі — якраз у той дзень, калі стала вядома пра адмовы ў Мінску, у Гродна далі дазвол на святочны канцэрт і мітынг. Да таго ж сімвалічна, што ў 1919 годзе сталіцай БНР якраз стаў Гродна. Выступіць на канцэрце ўжо пагадзіліся айчынныя легенды Лявон Вольскі, «Крама», Зміцер Вайцюшкевіч, «Дай Дарогу», «Дзецюкі».

Другая частка арганізатараў — масцітыя палітыкі, лідары БХД, Руху «За Свабоду», АГП ды БСДП «Грамада» — вырашыла пагадзіцца на пляцоўку ў Кіеўскім скверы ды зладзіць свой канцэрт там. Пры гэтым першыя абсмяялі другіх за тое, што яны пайшлі на кампраміс з гарадскімі ўладамі, а другія пакпілі — маўляў, гэта лепш, чым ганебна ўцячы і не ладзіць у сталіцы анічога. Да ўсяго гэтага, абодва бакі з цяжкасцю падзялілі назбіраныя краўдфандынгам грошы, вінавацячы адзін аднаго ў махлярстве.

Дарэчы, у Гродна канцэрт пройдзе 23 сакавіка, у сталіцы — 24 сакавіка. Уласна 25 сакавіка, што прыпадае на панядзелак, не адбудзецца анічога. Праўда, Белавус і Пальчыс заклікалі вывешваць сцягі на балконах ды а 21-й гадзіне масава запускаць святочныя салюты. Ёсць і прапановы сустрэць гэты дзень у Курапатах.

Што добрага і што дрэннага ва ўсім гэтым? Добра, што святкаванне Дня Волі ўсё ж адбудзецца, і, гледзячы па анонсах, стане даволі цікавым. Дрэнна, што скансалідаваная супольнасць, якая выдатна зладзіла 100-годдзе БНР, напярэдадні 101-й гадавіны пачала рассыпацца. Калі ў мінулым годзе пасварыліся прыхільнікі канцэптуальна розных фарматаў — святочнага канцэрта і пратэстнага шэсця, у гэтым годзе канфлікт адбыўся ўжо сярод прыхільнікаў канцэрта.

Сумна і тое, што Дзень Волі вышчамілі з цэнтра. У папярэднія гады, нават калі ўлады забаранялі шэсце па горадзе, людзі збіраліся і мітынгавалі ўсё адно ў цэнтры — зазвычай на Акадэміі навук. Цяпер жа без асаблівага змагання лідары апазіцыі здаліся і пагадзіліся на прапанаваную пляцоўку, карыстаючыся прынцыпам: лепш хоць штосьці, чым зусім нічога. Выглядае, што ні маральных, ні фізічных сілаў патрабаваць пляцоўку ў цэнтры ў апазіцыі не засталося.




Фота Арцёма Лявы

Да Белавуса і Пальчыса прэтэнзій няма: яны ад пачатку ставілі мэту рыхтаваць выключна свята — з музыкай, фудкортам, кірмашом, дзіцячай пляцоўкай, куды магла б прыйсці новая публіка, тыя, каго палітычныя прамовы і мітынгі не цікавяць. Дзякуй ім, што цяпер 25 Сакавіка — не толькі дзень пратэстаў, але і сапраўднае свята незалежнасці. Гэта тое, чаго шмат гадоў так бракавала Дню Волі.

А вось да апазіцыі пытанні ёсць. Дзень Волі заўжды быў шанцам для палітычных лідараў праявіць сябе, прамацаць глебу і пачаць падрыхтоўку да буйных палітычных кампаній. А такіх у нас намячаецца дзве — парламенцкія і прэзідэнцкія выбары. Пра свае прэзідэнцкія амбіцыі ўжо заявілі каля 10 кандыдатаў. Але ніхто з іх нават не паспрабаваў вярнуць законнае права мінчукоў (дый не толькі) годна адзначыць Дзень Волі ў цэнтры горада.

> **Дзень Волі заўжды быў шанцам для палітычных лідараў праявіць сябе і пачаць падрыхтоўку да палітычных кампаній**

Чаго тады чакаць ад наступнага Дня Волі? Калі ўлада пабачыла, што ўсе праглынулі забарону святкавання ў цэнтры, ці лёгка будзе вярнуць гэта права? Альбо збудзецца прагноз экс-кандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча, які лічыць, што ў наступным годзе не дазволяць і Бангалор? Ёсць пэўныя вышыні, якія саступаць нельга, і Дзень Волі — адна з такіх.

Зрэшты, у апазіцыі яшчэ ёсць час сабраць і мабілізаваць свае сілы. Інакш можа стацца так, што пасля прэзідэнцкіх выбараў 2020 года нас будуць заклікаць ісці пратэставаць супраць фальсіфікацый на тую самую Бангалор.

УМОВЫ ДЛЯ МОВЫ

# Беларускую мову — у беларускі футбол!

Ігар СЛУЧАК, Аліна НАГОРНАЯ



На мінулым тыдні гульнямі за Кубак Беларусі распачаўся новы футбольны сезон. Нельга абмінуць увагай выкарыстанне беларускай мовы ў футболе.

Трэба адзначыць, што футбол — самы адносна беларускамоўны від спорту ў Беларусі. Наогул, сфера футболу апошнія гады няспынна пашырае выкарыстанне беларускай мовы. Але так было не заўжды — яшчэ некалькі гадоў таму беларуская мова ў беларускім футболе ўжывалася катастрафічна мала. Да прыкладу, у Вышэйшай лізе ўсе каманды пісалі на гульнявой форме гульцоў іх прозвішчы на рускай мове. А ў сезоне 2018 года 12 з 16-ці камандаў пісалі прозвішчы сваіх гульцоў на форме па-беларуску. Колькі іх будзе ў рэгулярным чэмпіянаце–2019 мы хутка даведаемся, бо ён пачынаецца праз пару тыдняў.

Пашырэнне ўжывання беларускай мовы ў футболе адбылося не само сабою: клубам была паказана запатрабаванасць. Напачатку 2010-х гадоў беларускія фанаты цалкам адмовіліся ад «рускамірскай» ці «імперскай» ідэалогіі і перайшлі да беларускай ідэі і культуры, асновай якой справядліва і лагічна з'яўляецца беларуская мова. Мова з'явілася на стадыёнах, у першую чаргу на банэрах, як і гістарычная сімволіка — як нацыянальная, так і рэгіянальная. Да прыкладу, у Гомелі ганаровае месца ў фанатаў мае гістарычны гарадскі герб — белы крыж на чырвоным полі, што суседнічае з афіцыйным гербам — жоўтай рыссю на блакітным полі, які прыйшоў з часоў акупацыі Беларусі Расійскай імперыяй.

Толькі вось адміністрацыі клубаў не заўжды спяшаліся падтрымліваць сваіх фанатаў і заўзятараў у іх жаданні больш бачыць і чуць беларускую мову на стадыёнах. Разумеючы гэта, наша ініцыятыва «Умовы для мовы» вырашыла падтрымаць попыт грамадства на нацыянальную мову афіцыйнымі запытамі ў клубы з прапановай больш ужываць беларускую мову ў жыцці камандаў. І гэтыя запыты, як мы бачым зараз, мелі свой станоўчы эфект.

Калі мы выдавалі дапаможнік па абароне моўных правоў «Абаронім мову!», то змясцілі ў ім зварот да футбольных клубаў. А паколькі яшчэ не ўсе клубы спынілі дыскрымінацыю беларускамоўных фанатаў і заўзятараў па моўнай прыкмеце, мы прыводзім гэты зварот тут — дасылайце яго ў спартовыя клубы, прыхільнікамі якіх вы з'яўляецеся, пашырайце беларускую мову. І яе абавязкова стане больш! Атрымалася ў нас, атрымаецца і ў вас. Галоўнае — праяўляць актыўнасць і паказваць, што беларуская мова вам патрэбная.

А афіцыйны зварот — найбольш просты і эфектыўны спосаб гэта зрабіць.

Перыядычна ў гэтай калонцы мы будзем змяшчаць і іншыя прыклады зваротаў з нашага дапаможніка «Абаронім мову!». Давайце разам зробім, каб ужыванне беларускай мовы пашыралася ва ўсіх сферах нашага жыцця.

Прыклад звароту да спартовага клуба выглядае так:

**Назва месца, куды падаецца зварот.**

**Адрас, куды падаецца зварот.**

**Імя, імя па бацьку, прозвішча таго, хто падае зварот.**

**Адрас таго, хто падае зварот.**

**Несумнеўна, спорт мае прамы ўплыў на фармаванне патрыятычнага характару, любові да Беларусі і родных мясцін. Спорт гуртуе народ. А ў Беларусі гэты народ — беларусы, і мова гэтага народу — беларуская.**

**Прапаную вам зрабіць у новым сезоне наступныя захады:**

**— Прозвішчы гульцоў на іх спартыўнай форме пісаць па-беларуску.**

**— Гукавое і візуальнае суправаджэнне падчас правядзення матчаў праводзіць па-беларуску.**

**— Пасляматчавыя прэс-канферэнцыі праводзіць па-беларуску.**

**— Праграмы, афішы і іншую прадукцыю вырабляць з выкарыстаннем беларускай мовы.**

**— У стасунках з прэсай выкарыстоўваць беларускую мову.**

**— Зрабіць беларускамоўную версію вашага афіцыйнага сайта.**

**Подпіс таго, хто падае зварот.**

Да тэмы беларускай мовы ў футболе і спорце мы яшчэ будзем вяртацца. Ужо ў наступным нумары мы паведамім вам вынікі народнага галасавання «Самы беларускамоўны футбольны клуб–2018». Галасаванне падтрыманае афіцыйнымі старонкамі ў сацсетках усіх вядучых беларускіх клубаў і Федэрацыі футболу Беларусі.

**Нагадваем, што на скрыню umovymovy@gmail.com вы можаце дасылаць пытанні да аўтараў калонкі, свае пажаданні і прапановы, а таксама цікавыя гісторыі, звязаныя з выкарыстаннем беларускай мовы ў Беларусі і ваш вопыт абароны сваіх моўных правоў.**

# Не ўсім замежнікам у Беларусі рады

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**З якімі цяжкасцямі сутыкаюцца замежнікі, што хочуць прыехаць у Беларусь, і чаму яны могуць сядзець у беларускіх ізалятарах гадамі?**

Грамадская прыёмная праваабарончай ініцыятывы Human Constanta кансультуе замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, што знаходзяцца ці маюць намер прыехаць у Беларусь. За 2018 год сюды звярнуліся 134 чалавекі з 39 краін.

Пасля года працы прыёмнай праваабаронцы вылучылі шэраг праблемных кірункаў, па якіх да іх звяртаюцца людзі. Адзін з іх тычыцца агульных адміністрацыйных працэдур (рэгістрацыя, атрыманне віду на жыхарства). Па словах каардынаткі па абароне правоў замежных грамадзян і асоб без грамадзянства Эніры Браніцкай, праблемы часта паўстаюць праз тое, што супрацоўнікі аддзелаў па грамадзянстве і міграцыі не ўспрымаюць сваю працу як сервіс, робяць яе, сыходзячы са свайго пункту гледжання.

У беларускім заканадаўстве ёсць паняцце «непажаданыя ў міграцыйным плане краіны». Азначэння гэтага тэрміну няма, як і дакладнага спісу такіх краін — прынамсі, праваабаронцам так і не ўдалося яго атрымаць. Вядома, што праблемы на ўездзе ў Беларусь узнікалі ў грамадзян такіх дзяржаў, як Алжыр, Емен.

Замежнікі, якія прыехалі ў Беларусь, у асноўным сутыкаюцца з цяжкасцямі пры афармленні рэгістрацыі, падачы дакументаў на атрыманне дазволу на часовае ці сталае пражыванне.

Яшчэ адна праблема — знаходжанне замежных грамадзян у закрытых установах, ізалятарах, калоніях. Праваабаронцам не ўдалося даведацца, колькі замежнікаў у Беларусі затрымліваецца, колькі падлягае дэпартацыі. Магчыма, дзяржава ўвогуле не вядзе такой статыстыкі.

За мінулы год сярод такіх гісторый найбольш паказальнай была справа брытанца Алана Сміта, якую асвятляў «Новы Час». Як зазначаюць праваабаронцы, шмат залежыць ад начальніка ўстановы, у якой утрымліваецца чалавек. Звязацца з міграцыйнай службай, сваякамі, консульствам можна толькі з яго дазволу. Часам людзі многія месяцы і нават гады знаходзяцца ў складанай ізаляцыйнай сітуацыі, бо праз моўны бар'ер не могуць звязацца нават з аховай. Існуе праблема з перадачамі для зняволеных замежнікаў: іх прымаюць толькі ад сваякоў, і не ва ўсіх яны ёсць у Беларусі.

Замежнікі, што затрымліваюцца на нашай тэрыторыі без дакументаў, падлягаюць ідэнтыфікацыі асобы, як гэта здарылася з іранцам Мехрдадам Джамшыдзіянам. На час ідэнтыфікацыі чалавека змяшчаюць у ізалятар. І, хоць гэтыя ўстановы не прадугледжаны для доўгачасовага ўтрымання, замежнікі могуць знаходзіцца там неабмежавана. Бо дакладных тэрмінаў для ідэнтыфікацыі няма – гэта можа цягнуцца гадамі. Не прадугледжана і альтэрнатыва для такіх людзей. Мехрдад знаходзіцца ў ізалятары на Акрэсціна з чэрвеня, улетку ў яго там здарыўся сардэчны прыступ, але гэта ніяк не паўплывала на яго ўтрыманне.

Мехрдад Джамшыдзіян жыў у Беларусі з 1993 года, працаваў, меў сям'ю. У 2012 годзе ў Іране забілі яго сваякоў, і падазрэнне пала на Мехрдада, хоць ён у гэты час знаходзіўся ў Беларусі. Яшчэ сем гадоў таму Іран запатрабаваў экстрадыцыі Джамшыдзіяна, але тады Беларусь адмовіла. Цяпер жа іранца чакае дэпартацыя за парушэнне правілаў знаходжання замежнікаў на тэрыторыі Беларусі, бо ў яго пратэрмінаваныя дакументы.

Адмовіўшы ў экстрадыцыі Мехрдада, Беларусь прыняла рашэнне аб яго высылцы. Але рашэнне было прыпынена, бо ён падаваў заявы на атрыманне статуса бежанца ў 2013 і 2015 гадах, і тры гады чакаў адказу беларускіх уладаў. Аднак яму адмовілі, і Мехрдад стаў чалавекам без дакументаў. Справа ў тым, што за час чакання статусу бежанца ў мужчыны скончыўся тэрмін дзеяння яго іранскага пашпарту, і тады ж, у 2016 годзе, яго пазбавілі віду на жыхарства. А каб атрымаць часовую рэгістрацыю, Джамшыдзіяну патрэбны дзеючы дакумент.

У 2017 годзе Камітэт ААН па правах чалавека вырашыў, што, пры адсутнасці справядлівага суда ў Іране, Мехрдад можа быць падвергнуты там катаванням і смяротнай кары, таму Беларусь не павінна яго высылаць.

Рашэнне аб высылцы было прынятае і ўступіла ў сілу 7 сакавіка, а ўручылі яго Мехрдаду толькі 15-га. 18 сакавіка ён падаў скаргу, і суд цягам трох дзён павінен яе разгледзець. Але абскарджванне не ўплывае на ўступленне рашэння ў сілу, і рызыка высылкі вялікая.

Праваабаронцы ўжо накіравалі ў МЗС і МУС петыцыю супраць высылкі Мехрдада, якую падпісалі 1000 беларусаў. Таксама яны звярнуліся ў Адміністрацыю прэзідэнта, бо кіраўнік дзяржавы мае права аднаасобна адмяніць дэпартацыю і даць Мехрдаду статус бежанца.

На вясновай сесіі Палаты прадстаўнікоў будзе разглядацца ўнясенне зменаў у закон «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства». Рэкамендацыі падрыхтавалі і праваабаронцы. Так, найперш яны хацелі б прыбраць з заканадаўства дэфініцыю краін, непажаданых у міграцыйных адносінах. Апроч таго трэба ўстанавіць судовы парадак прыняцця рашэння аб высылцы замежнікаў.

Прапаноў у юрыстаў яшчэ шмат, і дэпутатам нядрэнна было б да іх прыслухацца, бо ёсць тыя, для каго недасканаласць у заканадаўстве абарочваецца зламаным жыццём.

# Што чакае ўдзельнікаў юбілейнага Фэсту экскурсаводаў?

**У красавіку ў Беларусі пройдзе Фэст экскурсаводаў, падчас якога бясплатна можна трапіць на самыя разнастайныя ўнікальныя экскурсіі па ўсёй краіне, а таксама ў замежжы. Фэст прымеркаваны да Міжнароднага дня помнікаў і мясцінаў, які адзначаецца па ініцыятыве ЮНЭСКА па ўсім свеце 18 красавіка.**

Сёлета Фэст экскурсаводаў юбілейны: свята, якое адбудзецца 13–14 красавіка, ладзіцца ў дзясяты раз. У яго межах адбудуцца шматлікія экскурсіі па ўсёй краіне, таксама чакаюцца вандроўкі па беларускіх мясцінах у замежжы. Падрыхтаваны і юбілейныя навінкі: квэсты для дзяцей і дарослых, незвычайныя маршруты па «звычайных» мясцінах. Пашырыцца і разнастайнасць экскурсій. Вандроўкі ў межах фэста запланаваны дзіцячыя, храмавыя, тэматычныя, экскурсіі для людзей з інваліднасцю, экскурсіі на прамысловыя прадпрыемствы.

Стваральнікі Фэсту экскурсаводаў не ставяць сабе за мэту павялічыць колькасць бясплатных экскурсій, але будуць больш пільна адсочваць іх якасць. Традыцыйна экскурсіі ў межах Фэсту экскурсаводаў могуць праводзіць не толькі прафесійныя экскурсаводы, але таксама выкладчыкі гісторыі, краязнаўцы, даследчыкі пэўнай эпохі, асобы, тэматыкі ці рэгіёна. Таму часта ў фэсце прымаюць удзел мастацтвазнаўцы, гісторыкі, культуролагі, архівісты, архітэктары, рэстаўратары і іншыя спецыялісты. Такія экскурсіі заўжды адметныя і папулярныя, бо на іх можна дазнацца каштоўныя звесткі пра той ці іншы аб'ект ад сапраўдных прафесіяналаў сваёй галіны.

Ідэя Фэсту экскурсаводаў нарадзілася ў 2009 годзе ў асяродку неабыякавых да гісторыі людзей, і з года ў год ён пашыраецца і выклікае вялікую цікавасць у наведвальнікаў. Адбылося ўжо дзевяць фэстаў, якія наведалі тысячы ўдзельнікаў, прайшлі сотні цікавых разнапланавых экскурсій. За гэты час у фэсту з'явіліся пастаянныя наведвальнікі і шматлікія прыхільнікі, якія з нецярпеннем чакаюць штогадовае свята экскурсій.

Арганізатарамі Фэсту экскурсаводаў–2019 выступаюць Беларускі камітэт Міжнароднай рады па помніках і мясцінах (ICOMOS), грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры» і Нацыянальнае агенцтва па турызме.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Незалежнасць і булка з макам

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Адна рука не ведае, што робіць другая», — паводле гэтага біблейскага правіла працуе наша дзяржава. З аднаго боку, на тыдні Аляксандр Лукашэнка падпісвае Канцэпцыю нацыянальнай інфармацыйнай бяспекі. З іншага — Мінгарвыканкам ці не поўнасцю забараняе ўсе вулічныя акцыі ў цэнтры сталіцы, прысвечаныя 101-м угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі.**


www.elenavilar.ru

Пазіцыі вельмі дзіўныя. Таму што «інфармацыйная бяспека», нібыта, павінна мець на ўвазе: нам ёсць што абараняць. У той жа час тая бяспека немагчымая без дакладнага ўсведамлення нашых нацыянальных інтарэсаў. А нацыянальныя інтарэсы, у першую чаргу, складаюцца не з колькасці перадачаў беларускай вытворчасці па афіцыйным тэлебачанні і не са знакамітага «75% беларускай музыкі ў эфіры FM-станцый». Яна складаецца, перш за ўсё, з нацыянальнай самаідэнтыфікацыі народа. Ці асэнсоўвае нацыя сябе нацыяй? Ці ёсць для беларусаў каштоўнасцямі незалежнасць, суверэнітэт, пачуццё сваёй зямлі і ўласнага дому?

І — не ў малой ступені, — адчуванне сваёй багатай культуры і гісторыі. Гісторыя ў нас ёсць — ад часоў, нават ранейшых за Вялікае Княства Літоўскае. Полацкае і Тураўскае княствы ў свой час таксама былі нішто сабе.

Але гэтая гісторыя ў нас «заціраецца» ці то савецкай, ці то імперскай парадыгмай (а можа, гэта адно і тое ж). Мы застаёмся ў нейкім вобразе «малодшай сястры» пры «старэйшым браце» Расіі. Вобразе цалкам навязаным, пра што наша гісторыя сведчыць. Гэта Сімяон Полацкі навучаў дзяцей расійскага цара Аляксандра Міхайлавіча чытаць і лічыць, а не наадварот. Гэта да нас — у ВКЛ — збег першадрукар Іван Фёдараў, калі яго зацкавалі ў Маскве. І безліч іншых фактаў, якія паказваюць, хто насамрэч «малодшы брат».

Гісторыя стварэння БНР — гэта не толькі гісторыя спробы атрымання беларусамі сваёй дзяржавы. Чыноўнікі Мінгарвыканкама, рэгулярна ставячы палкі ў колы гэтаму святкаванню, пэўна, не ўсведамляюць, што БНР — гэта была яшчэ і спроба вырвацца з Расійскай імперыі, з чужой гістарычнай парадыгмы, з навязанага нам вобразу «малодшай сястры», і спроба займець свой погляд на гісторыю. А гэта ўжо — інфармацыйная бяспека дзяржавы.

А можа, яны гэта цалкам усведамляюць? Тады ўзнікае пытанне, на якую дзяржаву яны працуюць?

Між тым, інтэрнэт дагэтуль поўны спрэчак наконт заяваў расійскага пасла ў Беларусі Міхаіла Бабіча. Той у адным з інтэрв'ю выказаўся ў стылі, што Беларусь — «нахлебнік», прыводзіў лічбы нафтагазавых «субсідый», і што трэба больш шчыльней інтэграваецца. У адказ беларускі МЗС назваў пасла «падаючым надзеяю бухгалтарам». А Бабіч адказаў, што пасол павінен быць кім заўгодна, і бухгалтарам у тым ліку.

Нават людзі з вельмі буйнай фантазіяй наўрад ці могуць уявіць, каб алігархі з «Газпрама» і «Раснафты» дзейнічалі на шкоду сабе. Яны прадавалі газ і нафту Беларусі, а не аддавалі яе проста так. І мы за гэта плацілі. А што спрачаліся па коштах, часам рэзка — дык гэта нармальны працэс. На рынку людзі таксама гандлююцца, а прадпрымальнікі робяць зніжкі. Але пры гэтым прадпрымальнік не выстаўляе сабе «спонсарам» пакупніка. У адрозненне ад некаторых.

І яшчэ пытанне, хто каго корміць. Узгадваецца гісторыя, калі «Рассельгаснагляд» забараніў беларускае сухое малако ў буйной упакоўцы. Саюзы кандытараў і пекараў хлеба Расіі папярэдзілі расійскага кіраўніка, што праз два тыдні без беларускай прадукцыі на стале ў расіянаў не будзе здобы і белага хлеба, не кажучы ўжо пра прысмакі. Цікава, ці любіць Бабіч булачкі з макам?

А калі Расія падлічвае недаатрыманы, на яе думку, прыбытак і лічыць гэта «спонсарствам», то... Мы таксама можам падлічыць нешта такое. Напрыклад, выставіць ёй, як правапераемніцы СССР, рахунак за Чарнобыль. За ўсё недаатрыманае намі ў выніку гэтай катастрофы з 1991 года. Ці не хоча «бухгалтар» Бабіч падлічыць, у якія грошы і рэсурсы ГЭТА ўстала беларускай эканоміцы?

Так што «Расія спансуе Беларусь» — гэта яшчэ адзін вялікі міф, навязаны нам невядома кім і з якой мэтай. Але вушы з гэтага міфу тырчаць канкрэтныя.

І яшчэ адна навіна пра «Рассельгаснагляд», які не супакойваецца, нягледзячы ні на што. Ён заявіў, што можа забараніць увоз раслiннай прадукцыі, якая паступае ў Расію транзітам праз Беларусь і іншыя краіны ЕўрАзЭС. Прычына — няспынныя пастаўкі санкцыйнай прадукцыі. Гэтую меру ведамства абмяркуе 27 сакавіка з кіраўніцтвам Галоўнай дзяржаўнай інспекцыі па насенняводстве, каранціне і ахове раслін Беларусі, гаворыцца ў анонсе мерапрыемства на сайце службы.

Калі забарона будзе ўведзеная, увозіць у Расію падкаранцінную прадукцыю можна будзе толькі праз пункты пропуску, размешчаныя на расійскім участку знешняга контуру ЕўрАзЭС, гэта значыць тыя, якія не мяжуюць з Беларуссю і іншымі краінамі саюза, вынікае з паведамлення.

А зараз паглядзім, што такое ЕўрАзЭС. Гэта Беларусь, Казахстан, Кыргызстан, Таджыкістан і ўласна Расія як паўнавартасныя сябры. А таксама Арменія, Малдова, Украіна як назіральнікі. Узбекістан сваё сяброўства ў арганізацыі прыпыніў.

Можа, «Рассельгаснагляду» мапу падараваць з пытаннем: «Як?» Праз што будзе вазіць прадукцыю Расія? Праз краіны Балтыі і Фінляндыю — сябраў ЕС, што наклаў на Расію санкцыі? Праз Грузію, у якой Расія адцяпала Абхазію і Паўночную Асецію? Азербайджан? Кітай? Манголію? Праз Аляску з ЗША, таксама «санкцыйныя»?

Так што нам тыя перамовы ўвогуле не патрэбныя. Не варта марнаваць час. Трэба было б сказаць: «Рабіце, што хочаце». А калі ў Расіі з крамаў знікне ўся «падкаранцінная прадукцыя», ад бананаў і ківі да яблыкаў з памідорамі (бо, пакуль яна даедзе з нейкага Марока да Масквы праз Пекін, яна проста згніе), тады нам і трэба будзе размаўляць з гэтым ведамствам.

Але размаўляць трэба будзе не толькі пра транзіт, але і пра беларускую прадукцыю ў расійскіх крамах.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Статкевіч



**Адзін з лідараў Беларускага нацыянальнага кангрэса (БНК) лічыць, што год таму частка дэмакратычнай апазіцыі фактычна «здала палітычны складнік Дня Волі».**

Па словах Статкевіча, яны адмежаваліся ад пратэстнай акцыі на плошчы Якуба Коласа і засяродзіліся выключна на арганізацыі святочнага канцэрту, на якім самі забаранілі палітычныя лозунгі.

«Меншасць аргкамітэта (па святкаванні БНР–100. — НЧ), насуперак агульнаму рашэнню, пабегла дамаўляцца з чыноўнікамі і здала палітычны складнік, які быў заўсёды, які неабходны, і падставіла тых, хто ўсё ж выйшаў на пратэстную акцыю. Год таму я напісаў, як пройдзе БНР–101: навучаны горкім вопытам БНК з гэтымі людзьмі, якімі невядома хто кіруе, у аргкамітэт не ўвойдзе. А без нас ім няма чаго прадаваць — няма на што абменьваць свае канцэрты. Таму іх звыкла адправяць на Бангалор — і яны туды звыкла пойдуць. На жаль, мой прагноз спраўдзіўся. Адны пайшлі ў Кіеўскі сквер, з другога боку ад Бангалор. А іншыя паехалі на мясцовы «Бангалор» ў Гродна», — кажа Статкевіч.

Пра фармат святкавання Дня Волі Кангрэсам пакуль не размаўлялі, але вулічных акцый, па словах Статкевіча, не плануецца.

## Тадэвуш Кандрусевіч



**Арцыбіскупу Беларускай рыма-каталіцкай царквы паспяхова праведзена аперацыя на пазваночніку. У панядзелак, 18 сакавіка, ён быў выпісаны са шпіталя ў Беластоку.**

«З кожным днём адчуваю сябе ўсё лепш і лепш, і ўжо магу без праблем хадзіць», — распавёў пра свой стан 73-гадовы кіраўнік рыма-каталіцкай царквы Беларусі.

Ён таксама адзначыў, што праз некалькі дзён пасля аперацыі імкнецца праходзіць па 2 кіламетры, што адпавядае рэкамендацыям лекараў. Пакуль Кандрусевіч вымушаны рабіць прыпынкі ў хадзе кожныя 200-300 метраў, а таксама адчувае складанасці пры выкананні рэзкіх рухаў. Яму пакуль нельга згінацца і сядзець.

Кандрусевіч таксама распавёў, што ўпершыню перад аперацыяй пачуў ад лекараў, што ўсё ў руках Божых і варта маліцца, каб аперацыя была паспяховай. Таксама ён падзякаваў усім людзям у Беларусі і за яе межамі, якія маліліся за яго здароўе перад аперацыяй і падчас яе.

«Я ведаю, што такіх шмат. І на сваёй першай імшы пасля выхаду са шпіталя і маліўся пра дактароў і пра тых людзей, якія мяне падтрымлівалі», — прызнаўся ён.

## Арына Сабаленка



**Беларуска Сабаленка і бельгійка Мертэнс выйгралі парны тытул на турніры WTA Premier Mandatory ў амерыканскім Індыян-Уэлсе з прызавым фондам 9 мільёнаў 35 тысяч 428 долараў.**

У фінальным матчы Сабаленка і Мертэнс за 62 хвіліны ў двух сэтах узялі верх над дуэтам Барбары Крэйчыкавай і Кацярынай Сіняковай. Гэтую перамогу можна назваць у нечым сенсацыйнай. Справа ў тым, што Кацярына Сінякова зараз займае 1 месцаў у парным рэйтынгу WTA, яе партнёрка Барбара Крэйчыкава — 2 месца. У Арыны Сабаленка ў парным рэйтынгу толькі 65-я пазіцыя, у Элізы Мертэнс — 11-я.

Нягледзячы на няўдалы пачатак Сабаленка на падачы, калі яна дапусціла 4 падвойныя памылкі, беларуска-бельгійскі дуэт пасля ліку 3:3 выйграў апошнія тры геймы ў першым сэце, а таксама зрабіў рывок з ліку 2:2, узяўшы 4 геймы запар у другой партыі, афоміўшы ўпэўненую агульную перамогу.

Для Сабаленка і Мертэнс гэта быў усяго другі сумесны турнір і першы сумесны тытул. Яны ўзялі рэванш у дзеючых пераможцаў «Ралан Гарос» і «Уімблдона» Крэйчыкавай і Сіняковай, якім саступілі ў студзені ў 3-м коле на Australian Open. І тая параза застаецца для беларускі і бельгійкі адзінай за час іх супрацоўніцтва, якое налічвае 8 матчаў.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# У пошуках ідэальнага беларуса

**Двухдумства — гэта наша ўсё, з яго дапамогай моладзь адаптуецца да дыктатуры «з сатырычным адценнем».**




**Паводле аднаго з самых уплывовых тэарэтыкаў менеджменту XX стагоддзя Пітара Друкера, у Заходняй Еўропе з часоў станаўлення хрысціянства дамінавалі чатыры погляды на ідэал чалавека. У Сярэднявеччы такім ідэалам быў вернік, у эпоху Рэнесансу — інтэлектуал. З узнікненнем капіталізму ўяўленне пра ідэал сталі звязваць з дзелавым чалавекам, а ў таталітарных дзяржавах (фашысцкая Італія, нацысцкая Германія) — з чалавекам гераічным.**

Апошні тып быў не чужы і будаўнікам камунізму. Вобразы герояў пачыналі атачаць савецкага чалавека з ранняга дзяцінства. Наконт дашкольных устаноў не ўпэўнены, але нельга ўявіць сабе савецкую школу без партрэтаў піянераў-герояў.

Партрэты герояў добра спалучаліся з пустымі паліцамі ў крамах. Якая паміж імі сувязь? Самая наўпростая. Будаўніцтва камунізму ажыццяўлялася ў атачэнні ворагаў краіны — знешніх і ўнутраных. Дакладна палічыць, зразумела, немагчыма, але армія і ваенна-прамысловы комплекс паглыналі да 50% ВУП краіны Саветаў. Пры вырашэнні дылемы «гарматы або алей» камуністы заўсёды рабілі выбар на карысць гармат.

Аднак усе гэтыя выдаткі аказаліся марнымі. СССР разбурылі не ракеты і танкавыя калоны NATO, а заходні лад жыцця. Дакладней, жаданне савецкіх людзей спажываць паводле заходніх стандартаў. У лідарах спажывання выявіліся не фарцоўшчыкі ды стылягі, а ўладальнікі пропускаў у спецразмеркавальнікі. Яны і ўзялі на сябе ролю крата гісторыі, які рабіў падкопы павольна, але мэтанакіравана — руйнаваў савецкую сістэму знутры.

## Школа Актыўнага Грамадзяніна

А які тып чалавека запатрабаваны сёння «беларускай мадэллю», што плаўна і незаўважна пераходзіць у дыктатуру «з сатырычным адценнем»? Калі мне памяць не здраджвае, такога кшталту пераход — не першы ў гісторыі. Як тут ні прыгадаць дыялог з фільма «Печкі-лавачкі»: «— З вёскі? — Угу. — Як там, у вёсцы? Па-мойму, весялей стала. Людзі весялей глядзяць. — Што вы! Іншы раз не ведаеш, куды падзецца ад весялосці. Вось як цэлая вуліца пачне рагатаць, ратунку няма. Пажарнымі машынамі паліваюць».

Гісторыя, як вядома, паўтараецца двойчы: першы раз як трагедыя, другі — як фарс. Фільм «Печкі-лавачкі» Васіль Шукшын зняў у 1972 годзе. Жыхары вёскі, якія рагаталі, — яны ж другое пакаленне калгаснікаў, дзеці тых, каму пашчасціла выжыць у часы калектывізацыі. Дык чаму б ім з самай раніцы і не парагатаць.

Мабыць, найбольш поўна сатырычнае адценне беларускай дыктатуры выявілася ў вядомым маналогу кабеты з мінскай гімназіі № 31. Сімвалічна, што з'яўленне маналогу ў сеціве супала з выступам адзінага палітыка (АП) на сустрэчы з актывам БРСМ, прымеркаванай да 100-годдзя ВЛКСМ.

У гімназіі маецца свой сайт у інтэрнэце. Без сатырычнага адцення, натуральна, і тут не абышлося. Чаго толькі варты праект «ШАГ — Школа Актыўнага Грамадзяніна». Адзін клік і... далей цытата: «Ключавая ідэя праекта «ШАГ» — стварыць пляцоўку для актыўнага дыялогу моладзі з палітыкамі, грамадскімі дзеячамі, навукоўцамі, пісьменнікамі, журналістамі, артыстамі. Гэта дасць магчымасць сфарміраваць у маладых людзей крытычнае мысленне, аналітычныя здольнасці, камунікатыўныя навыкі».

Цікава, ці не наша знаёмая адказвае за рэалізацыю праекта ў гімназіі? Чаму б і не? Выпускнікі гімназіі сцвярджаюць, што голас кабеты на відэа падобны да голасу намесніка дырэктара гімназіі па выхаваўчай працы. А каму, як не ёй, «фарміраваць у маладых людзей крытычнае мысленне».

Але каб не быць галаслоўным, прывяду цытату з гістарычнага відэа: «Хочаце вы — не хочаце, забралі гэты білет (білет чальца БРСМ. — НЧ), узялі ў зубы, паклалі дома на палічку і сядзіце, заткніцеся! Усё! Я ўжо з вамі як з дарослымі людзьмі размаўляю. Антысаветчына нейкая, антыбеларушчына нейкая. Вы не падтрымліваеце палітыку прэзідэнта нашага?»

## У адным флаконе

Відаць, не падтрымліваюць. А чаму яны павінны такую палітыку падтрымліваць? Цікава, калі гэта энергічная жанчына апошні раз перачытвала Канстытуцыю? Як сказаў бы АП: «Пытанне рытарычнае».

Аднак якім чынам спалучаюцца паміж сабой крытычнае мысленне і загад сесці і заткнуцца? Лёгка і проста. Гэтак жа, як абвешчаны ў беларускай Канстытуцыі прынцып падзелу ўладаў (артыкул 6) спалучаецца з рэальным іх падзелам.

У сацыялогіі падобныя парадоксы прынята тлумачыць двухдумствам, што я і паспрабую зрабіць з дапамогай кіраўніка аддзела сацыякультурных даследаванняў «Лявада-цэнтра» Аляксея Левінсона: «Яго (двухдумства. — НЧ) класічная форма — гэта калі людзі ў сваім прыватным жыцці кажуць адно, а ў жыцці публічным, якое адначасова ёсць жыццё ў асяродку любога кшталту ўлады, яны кажуць іншае, часта супрацьлеглае».

Тут напрошваецца паралель са сродкамі па догляду за валасамі, якія змяшчаюць у адным флаконе шампунь і бальзам («2 у 1»). Двухдумства — адзін з найбольш дзейсных механізмаў адаптацыі да рэпрэсіўнай дзяржавы, да непадкантрольнай улады. Перачытайце цытату цёткі. Яна патрабуе ад вучняў толькі фармальнага выканання рытуалу. Менавіта ў парушэнні рытуалу, г.зн. у адмове публічна дэманстраваць свой патрыятызм у тым выглядзе, у якім ён тлумачыцца дзяржаўнымі ідэолагамі, і бачыць жанчына антысаветчыну і антыбеларушчыну (немагчыма сабе ўявіць, каб з падобнай прапановай хтосьці звярнуўся да Паўліка Марозава).

Але наколькі цётка эфектыўная ў сваіх намаганнях? Мяркуючы па тым, што 99% сяброўства ў БРСМ яе не задавальняе, свой ідэалагічны хлеб з маслам намеснік дырэктара гімназіі № 31 па выхаваўчай працы ела недарэмна.

## Адчуваеце розніцу?

Канцэпцыю чатырох ідэалаў чалавека ў Заходняй Еўропе Пітара Друкера, я запазычыў з кнігі амерыканскага псіхолага Абрахама Маслоу «Матывацыя і асоба». Канцэпцыя была сфармуляваная ў 1939 годзе. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што далей за чалавека гераічнага Друкер прасунуцца не змог.

**Беларусь, калі меркаваць паводле выступаў АП, не выпадае з мэйнстрыму. Але галоўны архітэктар «беларускай мадэлі» імкнецца казаць не пра «грамадства ведаў», а пра «эканоміку ведаў». Адчуваеце розніцу?**

Што да Маслоу, дык працу над сваёй кнігай ён завяршыў праз 10 гадоў пасля ваеннай паразы фашызму і нацызму. Гэта дазволіла яму прасачыць за фарміраваннем постгераічнага чалавека ў Еўропе. Маслоу назваў яго «натуральнай асобай». «Чалавек павінен быць тым, — тлумачыў псіхолаг, — чым ён можа быць. Людзі павінны захоўваць вернасць сваёй прыродзе. Гэтую патрэбу мы можам назваць самаактуалізацыяй».

Сёння прынята казаць пра самарэалізацыю і самавыяўленне. Вывучэнню ролі сучаснага ідэалу чалавека прысвечаны праект «Сусветнае даследаванне каштоўнасцяў», які стартаваў у 1981 годзе. Даю слова яго кіраўніку, амерыканскаму сацыёлагу Рональду Інглхарту: «Працэс індустрыялізацыі нясе з сабой рацыяналізацыю, секулярызацыю і бюракратызацыю, але ўзнікненне «грамадства ведаў» абарочваецца зменамі іншага парадку, што ідуць у новым напрамку, — павышаецца роля асабістай незалежнасці, самавыяўлення і свабоды выбару. Зацвярджэнне каштоўнасцяў самавыяўлення пераўтворыць мадэрнізацыю ў працэс чалавечага развіцця, фармуючы тым самым гуманістычнае грамадства новага тыпу — у цэнтры яго знаходзіцца чалавек».

Беларусь, калі меркаваць паводле выступаў АП, не выпадае з мэйнстрыму. Але маецца адзін важны нюанс: галоўны архітэктар «беларускай мадэлі» імкнецца казаць не пра «грамадства ведаў», а пра «эканоміку ведаў». Адчуваеце розніцу?

У Інглхарта цэнтральным элементам «грамадства ведаў» з'яўляецца чалавек, у АП — новыя тэхналогіі і абсталяванне. На іх усе надзеі. Нічога асабліва беларускага ў гэтым няма. З моманту свайго ўтварэння Расійская імперыя жыла ў рэжыме мадэрнізацыі, якая даганяе, — сутнасць яе якраз і зводзілася да запазычання на Захадзе тэхналогій і абсталявання. Каб не паглыбляцца ў гісторыю да эпохі Пятра I, прыгадаем сталінскую мадэрнізацыю.

Яна ажыццяўлялася ў адпаведнасці з пяцігадовымі планамі, і толькі ў першую пяцігодку (1928–1932) у краіне было пабудавана больш за 1500 новых прадпрыемстваў. Якой цаной? Цаной двухразовага падзення ўзроўню жыцця насельніцтва. Сродкі канфіскоўваліся праз павелічэнне падаткаў, павышэнне цэнаў і продаж аблігацый. Паводле ўспамінаў маёй маці, пасля пачатку калектывізацыі (1929 год) у наступны раз яна паела ўдосталь толькі праз 18 гадоў — пасля правядзення грашовай рэформы (снежань 1947).

Без працоўнага энтузіязму насельніцтва задачы падобнага маштабу і падобнымі сродкамі было не вырашыць. Давялося тэрмінова заняцца фармаваннем савецкага варыянту чалавека гераічнага (Стаханаў, Крыванос, Ангеліна ды іншыя).

***

Ці зможа чалавек, чый светапогляд фармуецца з дапамогай двухдумства, пабудаваць сучасную «эканоміку ведаў»? Станоўчага адказу ў мяне на гэтае пытанне няма. А ў АП? Пытанне рытарычнае.

# Максім Вінярскі: «Дыктатура не будзе бараніць незалежнасць, дыктатура будзе гандлявацца»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Нядаўна ў рэдакцыі пераглядалі фотаздымкі з палітычных акцый 10-гадовай даўніны. Уразіла тое, што ў 2009-м было непараўнальна больш, чым сёння, і саміх падзей палітычнага кірунку, і іх удзельнікаў. Мы вырашылі спытаць заўсёднага наведвальніка пратэстных акцый, актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Максіма Вінярскага, што змянілася за апошні час у рэчышчы грамадскага супраціву і чаму ён дасюль гэтым займаецца.**



**Акцыя салідарнасці з палітвязнямі, 18 лютага 2009 года.** Фота Юрыя Дзядзінкіна

— Я не магу сказаць, што стала менш цікавасці да акцый пратэсту. Да таго ж пра іх агулам цяжка казаць, бо складана параўноўваць. Фактычна, масавых акцый як не было падчас 2009 года, так няма і цяпер.

Апошняя акцыя ў падтрымку палітвязняў, якая адбылася 26 лютага, не ставіла задачы, што людзі на яе выйдуць, і Лукашэнка праз тры хвіліны падпіша загад аб амністыі. Але была задача нагадаць, што праблема ёсць, і што яна павінна вырашацца. І дзеля гэтага акцыя 26 лютага максімальна дасягнула свайго эфекту. Інфармацыя пра яе прайшла практычна па ўсіх цэнтральных СМІ, і пад навіной пра акцыю, у якой удзельнічалі каля 10 чалавек, былі сотні каментароў.

Мерапрыемства, фактычна, не рыхтавалася як масавае. Тое, што за пікетам у 10 чалавек носіцца палова складу міліцыі і грамадскай бяспекі, ладзячы засады, паказвае, што яны (улады. — НЧ) баяцца. Магчыма, акцыя не дасягнула б такога розгаласу, каб не ўсе гэтыя паляванні.

Калі б там было яшчэ на 10 чалавек больш, гэта не вырашыла б асноўныя пытанні — наяўнасць палітвязняў і адсутнасць праваахоўнай сістэмы, якой можна давяраць.

***— Але табе не здаецца, што апошнім часам «здрабнелі» і такія традыцыйныя масавыя акцыі, як Дзень Волі, Чарнобыльскі Шлях?***

— Калі параўноўваць з далёкімі 2000-мі гадамі, — магчыма. Але мы памятаем 2017-ты год, калі ў людзей з'явілася праблема, яны зразумелі, што супраць яе можна і трэба паўстаць, і выйшлі на вуліцы. І такім чынам «дармаедскі» дэкрэт, фактычна, на год скасавалі. І калі б не цяперашняе жахлівае фінансавае становішча ўладаў, я думаю, што да яго б і не вярталіся наогул.

У 2010-м пасля выбараў былі адны з самых шматлікіх акцый за апошнія дзесяцігоддзі. Увогуле, любая палітычная кампанія — нагода для палітызацыі грамадства і для таго, каб узняўся пратэст. Але для гэтага людзі павінны бачыць, так бы мовіць, «джалы-дзіды». Яны былі ў нас у 2010 годзе, а вось у 2015-м ужо не было ніводнага кандыдата, які ўсур'ёз казаў бы, што ён ідзе змагацца за змены, а не проста гуляецца. Таму народ і не выйшаў, выйшлі толькі тыя, хто, умоўна кажучы, лічыў патрэбным ратаваць гонар краіны і паказаць, што яны пратэстуюць. Цяпер у нас ёсць прынамсі адзін кандыдат, які згодны ісці па гэтым шляху, — Мікалай Статкевіч.

Дыктатура не будзе бараніць незалежнасць. Дыктатура будзе гандлявацца да пэўнага часу за тое, каб ёй было што есці. Як толькі прыцісне — дыктатура незалежнасць здасць. І я чамусьці ўпэўнены, што Аляксандр Рыгоравіч паедзе на пенсію ў Растоў. Магчыма, нават не зусім добраахвотна.

***— Але беларуская незалежнасць пад пагрозай апошнія 25 гадоў. Чаму ты думаеш, што менавіта цяпер людзі паўстануць на яе абарону?***

— Мы не можам гарантаваць, што ў нас атрымаецца тое, за што мы змагаемся. Але калі нічога не рабіць, не ісці ў гэтым напрамку, то дакладна не атрымаецца. Калі б людзі не выйшлі на пратэст у 2010 годзе, калі б потым яны не ішлі на акцыі супраць «дармаедскага» дэкрэту, то цяпер у нас было б нашмат горш. Бо «з таго боку» сочаць за нашай грамадзянскай актыўнасцю. І кожны момант, які дэманструе, што людзі не змірыліся, працуе на карысць нашай незалежнасці.

У гэтым рэчышчы робіць сваю справу і Курапаты, куды штодня выходзяць людзі. Тое ж самае дэманструюць і пратэсты ў Брэсце супраць акумулятарнага завода. Калі людзі бачаць, што могуць уздзейнічаць на сітуацыю, яны выходзяць і б'юцца за сябе. І я не бачу варыянтаў гэтага не рабіць, бо інакш мы страцім усё.

***— У цябе ніколі не ўзнікала пачуццё безвыходнасці ад таго, што ўвесь час нешта робіш, а змены не надыходзяць?***

— Ну а хто, акрамя нас? Гэта мая краіна, я з яе не збіраюся з'язджаць і не лічу магчымым дазваляць кіраваць сабой людзям, якія гэтага не заслугоўваюць. Магчыма, у мяне такі характар, каб не змірыцца. Апошнім часам прэсуюць анархістаў. Але іх прэсуюць не толькі за ідэалогію, а найперш за тое, што яны актыўныя і гатовыя ў любы момант узняцца.

***— Але, пэўна ж, не вельмі прыемна жыць з адчуваннем таго, што цябе ў любы момант могуць затрымаць? Шмат разоў улада дэманстравала, што для яе не праблема ізаляваць актывістаў.***

— Найперш, яшчэ ні разу не ўдалося ізаляваць усіх. Тое, што людзей затрымліваюць прэвентыўна, каб яны не дайшлі да нейкага мерапрыемства, — яшчэ адзін доказ таго, што мы жывем пры дыктатуры, і што наша грамадства палітычна хворае.

Але, канешне, кожны выбірае для сябе. Магчыма, я прывяду жорсткую аналогію. Але калі ў цябе моцна хварэюць бацька ці маці, у цябе ж таксама ёсць выбар. Ты можаш сказаць: «Я не магу траціць сваё жыццё на гэтага чалавека» — і адправіць сваяка ў лякарню, каб там за ім глядзелі іншыя, ты можаш заплаціць за гэта грошы альбо ўвогуле проста пакінуць. Беларусь — мая краіна, яна мне, у нейкім сэнсе, маці. Чаму я павінен кідаць яе ў руках тых, хто можа давесці яе да згубы? Я гэта трываць не гатовы, таму настроены змагацца.

Калі распавядаюць, у якім стане ўкраінская армія была ў 2014 годзе, ад гэтага можа кідаць у роспач. Але хапіла добраахвотнікаў, якія кінулі свае звычайныя жыцці і ўзялі зброю. Так, потым з гэтымі людзьмі было па-рознаму. Але, можа, дзякуючы ім цяпер Украіна існуе як дзяржава? І ці можам мы сказаць, што ім не трэба было гэтага рабіць?

А ў часы Кастуся Каліноўскага і краіны нашай, па сутнасці, яшчэ не было. Але людзі ішлі, і ім было значна цяжэй, чым нам. У адрозненне ад нас, яны ведалі, чым гэта скончыцца. І дзякуючы іх змаганню, тым, хто ішоў пасля, у чымсьці было лягчэй.

***— Калі ты ўпершыню зрабіў свой выбар?***

— Гэта быў 1999 год, першы «Марш свабоды». Я тады быў яшчэ вельмі не абазнаны ў палітыцы, мая палітызаванасць вычэрпвалася газетамі і гістарычнымі кніжкамі. Але інфармацыя пра тое, што адбываецца ў краіне, ужо даходзіла. У нас у сям'і заўсёды цікавіліся палітычным жыццём краіны, мой хросны бацька яшчэ ў 1991 годзе стаяў на плошчы. Таму я вырашыў пайсці і паглядзець, што гэта такое. Гэта была першая вялікая акцыя, мне тады ўжо споўнілася 18 гадоў, я сам нёс за сябе адказнасць. Улады тую акцыю разагналі, а ў мяне адбыўся першы арышт, таму, калі я выйшаў на волю, ужо добра разумеў, што не пераблытаў бок, па якім трэба ісці.

Цяпер я ведаю, што было б непараўнальна горш, калі б людзі ў 1999-м, 2001-м, 2004-м, 2010-м не супраціўляліся. Але, калі ў 2010-м годзе мы змагаліся дзеля паляпшэння жыцця ў краіне, то цяпер мы змагаемся дзеля жыцця самой краіны.

***— Што можа мабілізаваць людзей цяпер?***

— Гэта вельмі цяжка прадказаць. Але калі людзі бачаць, што ёсць нейкая альтэрнатыва (на выбарах. — НЧ), якая ідзе супраць, яны мабілізуюцца. Пры дапамозе байкоту можна захаваць сваю маральную чысціню, не ўдзельнічаць у выбарах. Але без персаніфікацыі таго, хто кідае выклік уладам, у нашым грамадстве вельмі цяжка. І зараз такі чалавек ёсць. Я бачу, што ўсе гэтыя гады Статкевіч не спыняецца, і ўжо адно гэта дае яму нейкія авансы.

***— Але Статкевіч ужо спрабаваў удзельнічаць у выбарах, і з гэтага прадказальна нічога не атрымалася. Больш за тое, у многіх ён страціў давер пасля правядзення акцый у Мінску, якія збіралі ўсё менш людзей і выклікалі меркаванне, што гэта робіцца дзеля распылення грамадскай актыўнасці. Не ў плюс яму адбілася і адмова падтрымаць Курапацкую варту.***

— Гэты чалавек не здаўся, не адрокся, і знайсці таго, хто аддаў бы ў асабістым плане больш за Статкевіча, складана. У нас яшчэ ніводны палітвязень з тых, хто працягвае барацьбу, не сядзеў столькі, колькі ён. Магчыма, Статкевіч і страціў давер у пэўнай часткі актывістаў. Але я хачу сказаць, што для некаторых людзей гэта можа быць сродкам самаапраўдання. Калі ты не можаш ісці ў змаганне, пачынаеш шукаць прычыны для гэтага і казаць, што табе нехта не падабаецца. Але Статкевіч — не рубель, не долар і нават не талер, каб усім падабацца. Я бачу, што ў асяродку людзей, у палітыку не ўвязаных, ён — адзін з самых вядомых палітыкаў. Калі нехта расчараваўся, — гэта яго права. Але чаму праз тое, што нехта здаўся, павінен здавацца я, і адмаўляць таму ж Статкевічу ў праве змагацца?

Было б вельмі добра, калі б у нас быў кандыдат з нейкімі іншымі якасцямі. Але цяпер асноўная якасць, якая патрабуецца ад кандыдата, — гэта адвага ісці супраць таго, хто трымаецца ва ўладзе 25 гадоў. І калі палітыкаў з такім жа ўзроўнем рашучасці ў нас стане больш, я буду толькі рады.

***— Ты казаў, што Курапаты робяць сваю справу. На тваю думку, чаму ўлады не спыняюць пратэсты, асабліва пасля таго, як Лукашэнка ясна выказаўся на гэты конт?***

— Для ўладаў Курапаты непрыемныя, але не так іх хвалююць. Яны былі б радыя знесці там усё і дазволіць прыходзіць туды раз на год пад наглядам АМАПу, але для іх гэта зараз не галоўнае. Менавіта таму там не ўжываюць сілу, каб спыніць пратэст. Любы сілавы «наезд» на Курапаты будзе азначаць, што адтуль пойдзе адваротная хваля. А яшчэ пазіцыйнае змаганне ў Курапатах уладзе выгадна, бо адцягвае ўвагу актыўных людзей, якія маглі б быць на Плошчы. Таму я не здзіўлюся, калі ўлада і надалей спецыяльна не будзе закрываць пытанне па Курапатах.

***— Па-твойму, актыўным палітыкам трэба сысці з Курапатаў і займацца іншымі справамі?***

— Я не буду казаць, каму што трэба рабіць. Але лепшы сродак абараніць Курапаты палягае там, дзе і вырашэнне ўсіх астатніх нашых праблем, — у змяненні сістэмы.

***— Апошняе пытанне. Неўзабаве Дзень Волі, якім ты яго бачыш? (Гутарка адбывалася яшчэ да таго, як Мінгарвыканкам адмовіў у святкаванні ў цэнтры Мінска. — НЧ).***

— На жаль, аргкамітэт не вывучыў хатняга задання мінулага года. Магчыма, знаходзячыся ў эйфарыі ад таго, што летась канцэрт дазволілі (я супраць канцэрту, дарэчы, нічога не маю), яны вырашылі, што дазволяць і сёлета. Я спадзяюся, што ў іх хопіць розуму не ісці на Бангалор. Я лічу, што акцыя павінна быць у цэнтры. Канцэрт на стадыёне «Дынама» быў бы сапраўды файнай падзеяй, але арганізатары забыліся, што яны жывуць пры дыктатуры, і гэтым разам дыктатар дазволіць не захацеў. Але я спадзяюся, што беларускі народ так усё роўна адсвяткуе 25 Сакавіка.

Фота www.ru.sweden.se



**Памятаеце, як летась маладыя людзі арганізавалі святкаванне 100-годдзя БНР? Пасля некаторыя называлі іх апазіцыяй, якая танчыць. Але на свята выйшла тады каля пяцідзесяці тысяч чалавек. І асабіста я на баку гэтых маладых, якія лічаць, што трэба змяняць формы барацьбы — што яны павінны быць больш пластычныя, з разлікам на іншыя, новыя пакаленні...**

# Святлана Алексіевіч: «ДА НОВЫХ ЧАСОЎ ТРЭБА РЫХТАВАЦЦА»

Сяргей ШАПРАН

**Вясна прыносіць навіны — 26 сакавіка пасля пэўнага перапынку ўзнаўляе працу «Інтэлектуальны клуб» Святланы Алексіевіч. Гэтым разам гасцямі нобелеўскай лаўрэаткі будуць літаратары Віктар Марціновіч і Альгерд Бахарэвіч, мадэратарам вечара выступіць палітолаг і літаратуразнавец Аляксандр Фядута. Пра гэты «Інтэлектуальны клуб», безумоўна, будуць пасля гаварыць і спрачацца. Напярэдадні Святлана Алексіевіч, хоць даволі рэдка згаджаецца на інтэрв'ю, зрабіла выключэнне...**

*— Святлана Аляксандраўна, дасюль гасцямі вашага «Інтэлектуальнага клуба» былі замежныя палітолагі, літаратары і дзеячы мастацтва, цяпер жа выступаць будуць выключна беларусы. Дый тэма заяўлена цікавая — «Цана кампрамісу»...*

— Найперш трэба сказаць, што самі дакладчыкі — вельмі цікавыя людзі, гэта, па-мойму, найбольш цікавыя ў нас сёння маладыя пісьменнікі. І будуць, вядома, спрэчкі, бо, напрыклад, Віктар Марціновіч лічыць, што трэба ісці на кампраміс, каб штосьці рабіць, а не проста знаходзіцца ўбаку і крытыкаваць, як гэта звычайна і робіць «канапная апазіцыя»; маё ж пакаленне і нават крыху маладзейшыя — гэта людзі барыкаднай культуры. І тут сутыкаюцца два процілеглыя погляды.

Памятаеце, як летась маладыя людзі арганізавалі святкаванне 100-годдзя БНР? Пасля некаторыя называлі іх апазіцыяй, якая танчыць. Тым не менш на свята выйшла тады каля пяцідзесяці тысяч чалавек. І асабіста я на баку гэтых маладых, якія лічаць, што трэба змяняць формы барацьбы — што яны павінны быць больш пластычныя, з разлікам ужо на іншыя, новыя пакаленні... Калі я казала пра гэта адной журналістцы, якую паважаю і люблю, яна адказала: «А я на баку Марціновіча, бо надакучыла за дваццаць пяць гадоў быць у апазіцыі. Хочацца ўжо штосьці рабіць». Тады я і зразумела — вось тэма нашай будучай размовы.

Насамрэч гэтая праблема даўно вісіць у паветры. Пра гэта вядзецца шмат спрэчак і ў Расіі. Дастаткова прыгадаць Ганну Федэрмесер, заснавальніцу дабрачыннага фонду дапамогі хоспісам, ці актрысу Чулпан Хаматаву, чый дабрачынны фонд дапамагае хворым на анкалогію дзецям. Вось яны карыстаюцца падтрымкай дзяржавы — іх можна апраўдаць за гэта, бо яны дапамагаюць хворым, ці не?

*— Дарэчы, і са святкаваннем 100-годдзя БНР сітуацыя, па-мойму, неадназначная, бо ў той час, калі адны (іх тады часам называлі «менеджарамі ад апазіцыі») ладзілі мітынг і канцэрт, іншыя — як, напрыклад, паэт Уладзімір Някляеў — знаходзіліся за кратамі, то-бок калі адны святкавалі, іншыя сядзелі. І калі пасля па выніках года СМІ героямі назвалі першых, то мне была бліжэй пазіцыя тых, хто героямі года лічыў Змітра Дашкевіча і іншых абаронцаў Курапатаў, якія рызыкавалі і па сёння рызыкуюць уласнай свабодай і спакоем сваіх сем'яў.*

— Але формы барацьбы Дашкевіча асуджаюць яго на адзіноцтва. На святкаванне ж Дня Волі прыйшло шмат людзей. І размова ідзе пра тое, каб уцягнуць у супраціўленне як мага большую частку грамадства, якая сёння ці цалкам індыферэнтная, ці знаходзіцца ўбаку і толькі назірае за тым, што адбываецца. Уцягнуць жа можна, прапанаваўшы іншыя, не такія агрэсіўна-апазіцыйныя формы супраціўлення. Таму я і на баку тых маладых, якія зрабілі летась вельмі разумны выбар. А тое, што робяць Мікалай Статкевіч і Уладзімір Някляеў... Пры тым, што я сама з іх пакалення і паважаю кожнага з іх, але скажу, што гэтай філасофіяй мы не заваюем грамадства.

Увогуле трэба сказаць, што я захапляюся такімі людзьмі, як Зміцер Дашкевіч, але падобных фанатыкаў ідэі няшмат. Гэтаксама больш людзей не становіцца і ў Мікалая Статкевіча. Іх і не будзе больш, бо народ у большасці сваёй не падтрымлівае іх. А мы павінны гаварыць з народам. Пакуль жа гаворым адзін з адным. Дваццаць пяць гадоў ужо гаворым! І які ў тым сэнс?

*— Генадзь Бураўкін аднойчы казаў Уладзіміру Някляеву, што ён, будучы старшынёй Саюза пісьменнікаў і спрабуючы дамовіцца з уладай, усё правільна рабіў. Удала ці няўдала рабіў — гэта іншая справа, але правільна. Някляеў пісаў у гэтай сувязі: «Думкі такія з'явіліся ў галаве Генадзя Мікалаевіча пасля таго, як Вітаўт Кіпель давёў яму, што зацятая канфрантацыя з уладай — не самае лепшае, а самае горшае з таго, што мы, літаратары, маглі зрабіць і зрабілі на шкоду Беларусі і беларушчыне. Васіль Быкаў, ён, я... Тую ж самую памылку дапусціў перад намі Зянон Пазняк, і гэта стала нібыта ўзорным стылем паводзін апазіцыі, а насамрэч — рамантычнай дуратой. Сапраўдная палітыка — гэта перш за ўсё гнуткая сістэма дамоўленасцяў і кампрамісаў». На ваш погляд, Генадзь Бураўкін меў рацыю?*

— Гэта ўсё вельмі складана, але, мяркую, трэба казаць пра мудрасць Бураўкіна... Мне самой, калі вярнулася з-за мяжы, Якубовіч гаварыў, што трэба сустрэцца з прэзідэнтам, што, маўляў, гэта чалавек, які думае і на якога можна ўплываць. Аднак я адказала, што не веру ў тое, што можна ўплываць на чалавека, які дваццаць гадоў знаходзіцца ва ўладзе, тым больш калі размова ідзе пра аўтарытарную ўладу... Пра гэта, канешне ж, данеслі Лукашэнку, і ён стаў яшчэ больш не любіць мяне. Але справа тут не ў ім ці ўва мне, а ў тым, што, мяркуючы па ўсім, гэта яшчэ надоўга. Ва ўсялякім выпадку, гадоў на пяць дык дакладна. І гэта вельмі шкада...

**Што мы сёння здольныя зрабіць і што павінны рабіць? Найперш — захаваць саміх сябе. І зрабіць з сябе прафесіяналаў, бо (я заўсёды так кажу) я не хачу, каб мне пасля зубы лячылі прафесійныя рэвалюцыянеры, — я хачу, каб гэта рабілі ўрачы-прафесіяналы**

А з іншага боку, я некалі паспрачалася з адным нашым вядомым апазіцыйным дзеячам, які казаў, што не трэба дапамагаць чарнобыльскай Беларусі, бо гэта хутчэй пахавае рэжым. Я запярэчыла: «Слёзы аднаго-адзінага дзіцяці мне даражэй за ўсё тое, што вы думаеце пра Лукашэнку». І таму калі выступаю недзе за мяжой, то заўсёды прашу дапамагаць Беларусі, бо кропкай адліку павінна быць вось гэта — слёзы аднаго-адзінага чалавека. Гэтаксама і Ганна Федэрмесер і Чулпан Хаматава лічаць, што слёзы дзіцяці важней за ўсё тое негатыўнае, што пра іх самых пасля скажуць...

Зрэшты, што датычыць мяне, то я ўсё-ткі не такая гнуткая. На жаль, сама я не здольная на падобныя кампрамісы проста па прыродзе свайго характару, па прыродзе таго, чым усё жыццё займаюся. А вось гэтыя маладыя хлопцы прапануюць нейкі новы разумны шлях. Праўда, пры гэтым паўстае сур'ёзнае пытанне, што ўсяму ёсць свае межы. І тут ужо можна спрачацца: што гэта за мяжа, дзе яна праходзіць?.. Таму я і хацела б, каб мы ўсе абмеркавалі, каб апазіцыйнае грамадства абмеркавала: так, мы ідзём на кампраміс, але да якой ступені? Бо спачатку ты, атрымліваючы грашовую дапамогу ад дзяржавы,

дапамагаеш хворым, а пасля табе даюць ордэн, і ты ўжо аўтаматычна аказваешся разам з тымі, хто даў табе гэты ордэн. І вось я не ведаю — гэта ўсё ж плюс ці мінус?.. Асабіста я не ведаю дакладных адказаў на гэтыя пытанні.

***— І добра, відаць, што вам не далі Героя Беларусі.***

— *(Смяецца.)* Пачнем з таго, што я не прыняла б гэтую ўзнагароду, бо гэта ніяк не стасуецца з маім светапоглядам. Усё-ткі я выхоўвалася ў іншы, барыкадны час, і маімі настаўнікамі былі Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, а яны дакладна не прынялі б звання Героя.

***— А мне яшчэ ўзгадаўся Уладзімір Багамолаў, з якім Васіль Быкаў пэўны час быў у блізкім сяброўстве і раман якога «Момант ісціны» КДБ больш за год не дазваляў друкаваць, патрабуючы зрабіць шматлікія купюры. Аднак Багамолаў не саступіў ні слова. Калі ж раман усё-ткі выйшаў, да аўтара з ягонай кнігай прыбыў даручэнец Андропава: «Вы не маглі б зрабіць дарчы надпіс Юрыю Уладзіміравічу?» — «Што я павінен напісаць?» — запытаўся Багамолаў. «Штосьці кшталту ўдзячнасці за дапамогу, якую нашы органы аказвалі вам». — «КДБ не толькі не дапамагаў мне, але ўсяляк процідзейнічаў. Я нічога не падпішу», — адказаў пісьменнік і выставіў даручэнца Андропава за дзверы. Калі ж пазней Багамолава падалі на ўзнагароджанне ордэнам, ён казаў: «Мяне ў Крэмль у кедах не пусцяць» (у Багамолава былі хворыя ногі, і ён насіў кеды). Ён катэгарычна адмовіўся ад узнагароды, хоць яе пасля былі гатовыя прывезці нават дадому. «Не!» — адказаў Уладзімір Восіпавіч... Гэта да пытання бескампраміснасці асобных прадстаўнікоў старэйшага пакалення пісьменнікаў.***

— Гэта ўсё так, але разам з тым я разумею, што сённяшні час патрабуе новых форм супраціўлення. І вось тыя хлопцы, што наладзілі святкаванне Дня Волі, значна бліжэй да новага жыцця, якое ўсё адно непазбежна набліжаецца.

***— Калі мы гутарылі з вамі год таму, вы пагаджаліся з кінарэжысёрам Аляксандрам Сакуравым, які, выступаючы ў «Інтэлектуальным клубе», сказаў, што бачыць будучыню Беларусі толькі ў Еўропе. Аднак, з іншага боку, раней вы казалі: «Я шмат ездзіла ў тыя часы, калі быў Шушкевіч. Захад тады павярнуўся да Беларусі, дастаткова прыгадаць візіт Клінтана, ягоную сустрэчу з Зянонам Пазняком. Еўропа не адштурхоўвала нас. Магчыма, яна пераблытала нас з Прыбалтыкай ці сумясціла ў сваім уяўленні. Але мы аказаліся іншыя, мы аказаліся паміж. Еўропа нас прыме, і не трэба казаць, што яна нас не прымае. Аднак яна, вядома, не прыме нас такімі, якія мы цяпер ёсць». Казалі вы гэта пятнаццаць гадоў, але мы ўсё тыя ж, што былі і тады, і дваццаць пяць гадоў таму. І даўно ўжо пастаўленыя вамі пытанні: адкуль у нас рабства як норма? адкуль такая непавага да іншага чалавека? і чаму ў нас няма чалавечай годнасці? — усё яшчэ застаюцца без адказу.***

— Вось гэтыя маладыя — гэта ўжо не рабства, не сервільнасць у чыстым выглядзе. Яны разумеюць, што жыццё сыходзіць, таму і ўзнікае жаданне супраціву, але ў новых формах, якія яны і шукаюць.

***— Але яшчэ да пытання кампраміснасці. Пасля нядаўняга інтэрв'ю Tut.by вядомага прадпрымальніка Віктара Пракапені (якога вы, дарэчы, таксама хочаце запрасіць у свой «Інтэлектуальны клуб») блогер Віктар Малішэўскі зыранізаваў: «Кароткі змест інтэрв'ю Пракапені: дзякуй прэзідэнту... у нашага прэзідэнта дастаткова мудрасці... прэзідэнт разумее... упэўнены, наш прэзідэнт яго (момант) не ўпусціць... Вельмі няпростае інтэрв'ю, так».***

— Так-так, калі Віктар Пракапеня ў мяне бывае, ён тое ж самае кажа і, як мне падаецца, шчыра гэта гаворыць. Ён кажа, што той Лукашэнка, якога мы ўсе ведаем па тэлевізары, зусім не той, што ёсць у рэальнасці, — гэта вельмі моцны лідар і чалавек, які зрабіў сябе сам...

У сувязі з гэтым прыгадваецца, як гадоў дваццаць таму, калі мне далі прэмію «Трыумф», мы аказаліся за адным сталом з Барысам Беразоўскім, і я казала яму: «Што гэта вы заігрываеце з Лукашэнкам?» — «Святлана, мне падалося, што вы — разумны чалавек, — адказаў ён. — Калі-небудзь вы пагодзіцеся са мной: я ведаю ўсіх палітыкаў на постсавецкай прасторы і хачу вам сказаць, што гэта адзін з самых моцных палітыкаў сёння». Я тады яму не паверыла і была вельмі здзіўлена пачутым, бо Беразоўскі здаваўся мне вельмі разумным чалавекам. Мы ж у той час усе былі супраць Лукашэнкі і думалі, што яшчэ год-два — і ён нарэшце сыдзе... Гэта яшчэ Васіль Быкаў гаварыў, што часам здаецца, нібыта ўжо ўсё — катастрофа, што зараз усё



**Уладзімір Някляеў, Уладзімір Арлоў і Святлана Алексіевіч падчас пасяджэння «Інтэлектуальнага клуба».** Фота Сяргея Шапрана

абрынецца, і раптам штосьці такое адбываецца ў Беларусі ці ў свеце, што працуе на ягоную карысць. «Яму сам чорт дапамагае!» — казаў Быкаў. Але гэта ўжо, канешне, містыка...

***— Аднак калі вярнуцца да вашага «Інтэлектуальнага клуба»: вы ўзнаўляеце яго працу нягледзячы на тое, што вас неаднойчы крытыкавалі, прычым часам несправядліва?***

— Проста ў мяне ёсць сваё ўяўленне пра тое, што адбываецца і што я павінна рабіць. І я гэта раблю не толькі цяпер, а ўсё жыццё. Хоць, канешне, рэакцыя бывае сапраўды розная. Калі, напрыклад, да мяне падыходзіць адзін так званы інтэлектуал і пытаецца: «А што гэта вы ўкладваеце грошы ў рускую інтэлігенцыю?» Спачатку я была збянтэжаная і толькі потым зразумела, што маецца на ўвазе ганарар, які я выплочваю сваім гасцям. «Я дасюль думала, што ўкладваю грошы якраз у беларускую інтэлігенцыю!» — адказала я...

Справа ж не толькі ў грошах, а найперш у ідэях, у людзях, якіх запрашаю толькі дзеля таго, каб тут пачалося нейкае браджэнне думкі. І вось уявіце — прыязджае Сакураў, а мне кажуць: «Навошта вы ўкладваеце грошы ў рускую інтэлігенцыю?»!.. Дарэчы, руская інтэлігенцыя ў асобе Аляксандра Сакурава не ўзяла ні капейкі, бо Сакураў зразумеў, што я раблю, і проста па-сяброўску падтрымаў мяне.

***— Тая сустрэча з Аляксандрам Мікалаевічам стала, на мой погляд, адным з самых цікавых вечароў у межах «Інтэлектуальнага клуба».***

— Так-так, гэта праўда.

***— Гэткім чынам вы, нягледзячы ні на што, усё адно не здаяцеся і не апускаеце рукі?***

— Не, канешне. Проста трэба рабіць сваю справу. Вось што мы сёння здольныя зрабіць і што павінны рабіць? Найперш — захаваць саміх сябе. І зрабіць з сябе прафесіяналаў, бо (я заўсёды так кажу) я не хачу, каб мне пасля зубы лячылі прафесійныя рэвалюцыянеры, — я хачу, каб гэта рабілі ўрачы-прафесіяналы. І потым, у кожнага ёсць свой дом, ёсць сям'я, дзеці, то-бок тыя, каго вы можаце падрыхтаваць да новых часоў, якія ўсё адно абавязкова надыдуць. І да гэтых новых часоў трэба рыхтавацца, каб потым не было ні хаосу, ні вайны — усяго таго, праз што прайшлі нашы суседзі... Я вось паглядзела фільм «Данбас» Сяргея Лазніцы, дык гэта страх божы — грамадзянская вайна!..

***— Вы кажаце, што трэба не проста чакаць новых часоў, а рыхтавацца да іх, а мне міжволі прыгадаўся аповед пра вашы размовы з апальным расійскім прадпрымальнікам Міхаілам Хадаркоўскім...***

— Так, ён гаварыў, што Пуцін — гэта надоўга, і што трэба рыхтаваць маладых людзей да новых, іншых часоў. Гэта ягонае перакананне. Я яшчэ прыгадала, як аднойчы слухала ягонае выступленне ў Парыжы. «Ну, вы — рамантык!» — казала я. «Не, ужо не рамантык», — адказаў ён. Яму хапіла некалькі гадоў, каб дакладна адчуць час, у якім мы жывём.

***— А запрасіць яго ў Мінск немагчыма?***

— Не. Ён сказаў, што прыехаў бы без пытанняў, але тут яго адразу арыштуюць. Беларусь — не тое месца, якое гарантуе бяспеку.

***— То-бок, падсумоўваючы, можна сказаць, што 26 сакавіка чакаецца няпростая размова?***

— Так, тэма размовы сапраўды цікавая. І калі прыйдуць удумлівыя людзі — а яны, спадзяюся, прыйдуць, — мы пра ўсё гэта пагаворым.



**Разам з Віктарам Марціновічам.** Фота Сяргея Шапрана

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Мільён чалавек у партыю!

Федэральны палітычны камітэт расійскай апазіцыйнай партыі «Яблоко» паставіў перад выканаўчымі партыйнымі структурамі незвычайную задачу: запісаць у арганізацыю новых сябраў. Планка вельмі высокая, калі ўлічваць, што не толькі апазіцыйныя, але і ўсе партыі ў прынцыпе цяпер у крызісе. Эпіцэнтр палітычнай дыскусіі ў той жа Расіі знаходзіцца ў інтэрнэце. Аднак кіраўніцтва партыі «Яблоко» і яе лідар Рыгор Яўлінскі лічыць, што мільён — цалкам рэальная лічба. На яго думку, бліжэйшым часам трэба чакаць цікавасці расіян да апазіцыйных цэнтраў, паколькі «краіна знаходзіцца на парозе сур'ёзных пераменаў — аўтарытарная сістэма, замкнёная на першую асобу, практычна вычарпала магчымасці для развіцця». Чакаецца, што пік расчаравання рэжымам прыйдзецца на 2024 год, калі скончыцца цяперашні прэзідэнцкі тэрмін Пуціна і пачнецца транзіт улады, які справакуе надзеі на лепшае. Бюро і рэгіянальныя арганізацыі партыі «Яблоко» ўжо задумаліся наконт рэалізацыі ідэяў кіраўніцтва. Мяркуецца прыцягнуць новых рэкрутаў за кошт інфармацыйных кампаній і лакальных акцый сацыяльна-эканамічнага характару.

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Атака на пахавальню каралёў

У Сэн-Дэні — прыгарадзе Парыжа — адбылося злачынства, якое абурыла ўсю хрысціянскую грамадскасць Францыі. Тут быў атакаваны некропаль французскіх каралёў, які месціцца ў мясцовай базіліцы. Пахаванне высакародных арыстакратаў яшчэ з часоў французскай рэвалюцыіператварыла базіліку ў мішэнь вылазак рознага кшталту радыкалаў. Працягваецца гэтая традыцыя, здаецца, і цяпер. У ноч на мінулую нядзелю невядомыя выбілі ўсе вокны ў будынку і зламалі арган унутры. Выпадак выклікаў абурэнне, якое яшчэ больш інспіравала статыстыка падобных здарэнняў. Аказалася, што ў сярэднім двойчы на тыдзень адна з хрысціянскіх цэркваў у Францыі становіцца аб'ектам нападаў вандалаў. Праўда, наўрад ці можна казаць, што гэтыя злачынствы каардынуюцца. А вось у нападзе ў Сэн-Дэні многія падазраюць радыкальных ісламістаў. Справа ў тым, што ў базіліцы таксама знаходзіцца магіла Карла Мартэла — правадыра старажытных франкаў у 717–741 гадах. У гісторыю Мартэл увайшоў як выратавальнік Еўропы ад арабскай экспансіі ў бітве пры Пуацье (732 год).

**Паводле французскай прэсы**

### МАЛДОВА. Лідараў апазіцыі атруцілі?

Здавалася, пасля таго, як у канцы лютага ў Малдове адбыліся парламенцкія выбары, сітуацыя ў краіне павінна больш-менш стабілізавацца. Аднак палітычны сюжэт, наадварот, становіцца ўсё больш драматычным. Літаральна напярэдадні згаданых выбараў Мая Санду і Андрэй Нэстасе — лідары праеўрапейскага блока ACUM — заявілі, што сталі ахвярай атручвання: нейкім чынам у іх арганізм трапіла ртуць. Грамадства ўспрыняло заяву хутчэй як самапіяр. Аднак днямі гісторыя атрымала працяг. У адным з інтэрв'ю Мая Санду паведаміла, што ў Андрэя Нэстасе праз атруту паўсталі сур'ёзныя праблемы са здароўем. Варта адзначыць, што з самага пачатку лідары ACUM лічылі, што за атручваннем стаіць алігарх Уладзімір Плахатнюк, які, праўда, ад каментароў на гэтую тэму адмовіўся. Новы віток гісторыі з замахам на жыццё палітыкаў відавочна ставіць пад сумнеў магчымасць кааліцыі ACUM з Дэмпартыяй, якую курыруе Плахатнюк. Паводле такой логікі, Малдовай з большай верагоднасцю будзе кіраваць блок дэмакратаў і сацыялістаў.

**Паводле малдоўскай прэсы**

### ФРГ. Выратаваць нямецкую мову

Саюз нямецкай мовы, а таксама шэраг вядомых пісьменнікаў і філолагаў пачалі незвычайную кампанію пад назвай «Стоп гендарная мова!». Гаворка пра тое, каб не даць ператварыць класічную нямецкую мову ў так званую «гендарна-нейтральную мову». Апошнім часам гэтая тэма вельмі папулярная ў ФРГ. Лічыцца, што такая мова знішчыць арыентаваную на мужчыну структуру мовы, што, у сваю чаргу, надае моцнаму полу сацыяльныя прывілеі. Напрыклад, папулярным варыянтам змякчэння моўнага сексізму з'яўляюцца так званыя фемінітывы — азначэнні для жанчын, напрыклад «аўтарка», «канцлерка», «фатографка» і іншае. Крытыкі лічаць, што такая рэформа стварае мноства недарэчных моўных структур, якія, у сваю чаргу, не могуць быць устойлівымі. Не кажучы пра тое, што гэта не палепшыць становішча жанчын у грамадстве. Цікава, што ў нямецкай мове шмат слоў сярэдняга роду, напрыклад, конь. Ці варта шукаць яму жаночую версію? Так ці інакш, змяніць трэнд барацьбітам за класічную версію нямецкай мовы будзе цяжка. Напрыклад, у студзені ўлады Гановеру абвясцілі пра ўвядзенне гендарна-нейтральнай мовы для выкарыстання ў афіцыйных дакументах. Сярод іншага чыноўнікі павінны пазбягаць слоў «спадарыня» і «спадар».

**Паводле нямецкай прэсы**



Фота www.newizv.ru

# Невядомы галадамор

Алег НОВІКАЎ

**У Казахстане ўзгадалі пра свой масавы голад напачатку 1930-х гадоў, ахвярамі якога сталі больш за два мільёны чалавек.**

Пра той голад было вядома з канца 1980-х гадоў. Яшчэ пры Вярхоўным савеце Казахстанскай ССР працавала камісія, якая павінна была даследаваць гэтую раней забароненую тэму. Згодна з вынікамі яе працы, у 1931–1933 гадах у Казахстане меў месца масавы голад, выкліканы афіцыйнай палітыкай раскулачвання і калектывізацыі. Быў і дадатковы лакальны фактар: казахі цалкам залежалі ад худобы, якую амаль усю рэквізавалі бальшавікі. У выніку ахвярамі голаду сталі каля 2 мільёнаў 200 тысяч чалавек. З іх казахаў — 1 мільён 750 тысяч. Лічбы жудасныя, асабліва калі прыгадаць, што, згодна з перапісам 1929-га, у рэспубліцы пражывалі каля 6 мільёнаў чалавек.

Агучаная камісіяй колькасць ахвяраў лічыцца самай мінімальнай. Пазней гучалі версіі пра тое, што напачатку 1930-х памёр ледзь не кожны другі этнічны казах. Нягледзячы на такія маштабы голаду, асабліва гэтую тэму ў Казахстане не ўздымалі, хаця ў трох гарадах (Алматы, Астана і Паўлаград) усталяваныя помнікі ахвярам голаду пачатку 1930-х гадоў.

Сапраўдны масавы інтарэс да «Қазақстандағы аштық» (так афіцыйна называюць тую трагедыю) пачаўся прыкладна месяц таму пасля прэм'еры дакументальны фільму «Зулмат. Генацыд у Казахстане» (рэжысёр Жанбалат Мамай). У фільме былі агучаныя новыя шакавальныя факты. Напрыклад, згодна з рапартам міліцыі ад 1933 года аднаго з раёнаў Карагандзінскай вобласці, у аулах людзі ў пошуках ежы выкопвалі з магіл тых людзей, якія паміралі ад воспы, з разлікам, што нябожчыкі маюць больш тлушчу, чым людзі, якія памерлі ад голаду.

Узгадваецца ў фільме і малавядомае антысавецкае паўстанне. Яго ўдзельнікі — недзе паўтара мільёны казахаў — намагаліся збегчы з рэгіёнаў, што былі ахопленыя голадам. Паўстанне было задушанае сіламі рэгулярнай савецкай арміі ў 1931 годзе, а для яго падаўлення выкарыстоўвалі і ваенную авіяцыю.

Другі чыннік, які садзейнічаў папулярнасці стужкі, — радыкальныя высновы. Аўтар фільма лічыць, што голад быў генацыдам бальшавікоў супраць казахскага народа. На гэтай глебе ахвяраў голаду Жанбалат Мамай параўноўвае з ахвярамі Халакосту. У яго таксама ёсць прэтэнзіі да Расіі, якая, як спадкаемца СССР, павінна прызнаць адказнасць за трагічныя падзеі.

Такая выснова выклікала шмат дэбатаў. Частка казахаў падтрымлівае Мамая, які, маўляў, нарэшце сказаў тое, што даўно трэба было сказаць. Аднак хапае і крытыкаў, перш за ўсё, сярод гісторыкаў. Іх асноўная прэтэнзія тычыцца правамернасці ўжывання слова «генацыд». Як адзначае нямецкі прафесар Роберт Кіндлер, «для ўзвядзення ў статус генацыду патрабуецца намер знішчыць, адзнака таго, што канкрэтная група насельніцтва сапраўды павінна быць знішчана. А тут гэтага няма». Акрамя таго вядома, што ў арганізацыі голаду ўладам дапамагалі так званыя «бельсендзі» — так называлі казахаў з партнаменклатуры, якія падтрымлівалі мерапрыемствы савецкай улады.

Найбольш істэрычна на фільм Мамая адрэагавалі патрыятычныя СМІ Расіі. Там нават паспрабавалі перакласці віну за той голад на асаблівасці казахскай гаспадаркі. Увага звярталася на тое, што казахі не назапашвалі сена на зіму ды пакідалі худобу пад адкрытым небам. У выпадку, калі здараўся снегапад, затым рэзкая адліга і зноў мароз, жывёлы не маглі здабываць сабе ежу з-пад лёду і масава гінулі. Услед за імі з-за недахопу прадуктаў ад голаду гінулі і людзі. Такі лакальны галадамор у казахскіх стэпах здараўся раз на 8–10 гадоў, і ў тым ліку адбыўся ў пачатку 1930-х.

Увогуле, прамаскоўская партыя разглядае фільм Мамая як спробу імпарту ў Казахстан украінскага Майдана. Галадамор, як вядома, з'яўляецца важнай ідэалагемай украінскага нацыянал-дэмакратычнага руху. У гэтым плане гучыць панічны енк, што ўладная эліта Казахстана здрадзіла Маскве. У якасці дадатковага доказу ўзгадваюць і тое, што цяпер на казахскіх грошах не будзе надпісаў па-руску.

Кіраўніцтва Казахстана пакуль адмаўляецца даваць свае ацэнкі «Зулмат. Генацыд у Казахстане». Аднак той факт, што першы паказ фільма прайшоў у прэстыжным сталічным кінатэатры і яго асвятлалі ўсе вядучыя СМІ, кажа: казахскія ўлады непасрэдна датычныя як мінімум да папулярызацыі стужкі.

Як вынік, частка мясцовай апазіцыі зноў пачала казаць пра намер улады аніміваць нацыяналістычны рух для стварэння штучнага напружання ў грамадстве. За кошт гэтага Назарбаеў зноў зможа выступаць у ролі медыятара і гаранта міжнацыянальнага міру. Па-другое, культурна-гістарычная праблематыка адцягвае народ ад рэальных сацыяльных праблем.

Другая частка апазіцыі лічыць, што ўлада, дазваляючы дэманстрацыю фільма, наадварот, намагаецца кантраляваць працэс у гэтай сферы. Казахскія гісторыкі не раз казалі, што ў іх дастаткова даследаванняў пра масавы голад, каб ужо зараз узняць пытанне пра яго палітычную ацэнку, аднак улады краіны працягваюць дзейнічаць з аглядкай на Расію.

Цяжка сказаць, якая з гэтых версія правільная. Аднак відавочна, што кіраўніцтва Казахстана вымушана шукаць новыя хады, і яўна не праз добрае жыццё. Паколькі крызіс працягваецца, ад Астаны варта чакаць новых інфанагодаў.

# Мова або незалежнасць?

Алег НОВІКАЎ

**Праз Brexit ва Уэльсе паступова растуць незалежніцкія настроі. Імпульсу руху за суверэнітэт можа надаць інтэграцыя ў яго шэрагі англамоўных уэльсцаў. Аднак некаторыя нацыяналісты рашуча супраць білінгвізму.**



Фота www.socialcompas.com

Зараз на ўэльскай мове могуць размаўляць каля 20 працэнтаў жыхароў Уэльсу. Дарэчы, гэта не так кепска, калі ўзгадаць палітыку татальнай культурнай і моўнай асіміляцыі, якую праводзіў Лондан на ўскраінах Брытанскай імперыі. Уэльская мова, дарэчы, — самая папулярная кельцкая мова ў свеце. Напрыклад, у Ірландыі сваю мову ведаюць 13 працэнтаў. На ўсю пяцімільённую Шатландыю можна знайсці каля 50 тысяч тых, хто размаўляе па-шатландску.

Што да Уэльсу, адначасова прыкладна 18 працэнтаў мясцовых жыхароў выступаюць за свабодны Уэльс. Практычнае супадзенне ў лічбах прымушае патрыётаў задумацца: магчыма, праблема ў тым, што Plaid Cymru — вядучая нацыяналістычная партыя — занадта шмат увагі надае моўнаму пытанню.

Увогуле, гэта не дзіўна, калі ўзгадаць гісторыю партыі, што паўстала ў 1925 годзе. Яе стваральнікамі шмат у чым рухала ідэя ўзняць статус мовы, якая традыцыйна лічылася гутарковай у асяродку сялян і правінцыялаў. Гэты момант быў для нацыяналістаў амаль сакральным. Напрыклад, унутраная партыйная дыскусія прынцыпова адбывалася выключна на ўэльскай мове. Папулярная практыка, кал англійскія імёны, што былі атрыманыя пры нараджэнні, мяняюцца на кельцкія.

Аднак час ідзе — і, адпаведна, апетыты растуць. На думку некаторых нацыяналістаў, выйсці за межы 20-працэнтнага гета Plaid Cymru здольная за кошт аднаго рашучага кроку — уэльскі незалежніцкі праект павінен выглядаць сваім у вачах англамоўных жыхароў. Першым крокам у гэтым кірунку можа стаць перайменаванне Plaid Cymru. Прапануецца назваць структуру «Новая ўэльская партыя» або ўжываць абедзве назвы разам. Дарэчы, ініцыятарам такога кроку стаў новы лідар Plaid Cymru Адам Прайс (Adam Price).

Аматары рэбрэндынгу агучваюць як мінімум тры аргументы ў абарону сваёй прапановы. За кошт білінгвізму рухам зацікавіцца больш выбаршчыкаў, частка з якіх патэнцыйна можа папоўніць партыйны актыў. Сама тэма пра новы Уэльс з'яўляецца аптымістычным, футурыстычным пасланнем. Такім чынам, падкрэсліваецца, што абвяшчэнне незалежнай дзяржавы будзе не чарговай ракіроўкай чыноўнікаў, а новай старонкай гісторыі краю і біяграфіі кожнага ўэльсца.

**Пакуль сябры Plaid Cymru спрачаюцца пра новую назву сваёй партыі, крызіс наконт Brexit зацягваецца, а яго развязка становіцца ўсё больш непрадказальнай**

Нарэшце, узгадваецца паспяховы прыклад Шатландскай нацыянальнай партыі (SNP), якая ў свой час надала прыярытэт сацыяльным, а не культурным лозунгам. Прываблівы сюжэт пра тое, што незалежная Шатландыя будзе моцнай сацыяльнай дзяржавай, дазволіў SNP стаць масавай партыяй, з часам прыйсці да ўлады і нават паставіць пытанне пра абвяшчэнне суверэнітэту.

Хапае ў аматараў новай назвы і апанентаў. Яны робяць акцэнт на тым, што пытанне мовы заўжды было для ўэльскага руху амаль догматам. Адыход ад асноўнага ідэалагічнага прынцыпу закладзе міну пад партыйнае адзінства. Праціўнікі Адама Прайса пагаджаюцца, што новая назва дазволіць выклікаць цікавасць электарату, аднак вельмі спрэчна, што гэта гарантуе радыкальны электаральны прарыў. Наадварот, ёсць рызыка таго, што традыцыйныя выбаршчыкі пабачаць у новай назве здраду, часовую модную фішку новага кіраўніцтва. Акрамя таго, не зразумела — ці сапраўды англамоўныя выбаршчыкі зацікавіцца новым брэндам.

Варта ўзгадаць яшчэ адну тэзу, што гучыць на мясцовых інтэрнэт-форумах: ці патрэбна нам незалежнасць дзеля фармальнай незалежнасці? Калі край будзе незалежным, то ён, відавочна, павінен адрозніваецца ад Уэльса, што быў у складзе Вялікабрытаніі. Магчыма, шырокае выкарыстанне ўэльскай мовы — і ёсць адзнака, што нешта сапраўды змянілася. А паколькі да гэтага яшчэ далёка, прапануецца асцярожна ставіцца да лозунгу «незалежнасць любым коштам». «Нам не трэба нацыя, асноўным маркёрам якой з'яўляецца любоў да мясцовай зборнай па рэгбі», — жартуе адзін з патрыётаў.

Пакуль сябры Plaid Cymru спрачаюцца пра новую назву сваёй партыі, крызіс наконт Brexit зацягваецца, а яго развязка становіцца ўсё больш непрадказальнай. Магчымыя любыя сцэнары — аж да аддзялення Шатландыі і вяртання Ольстэру ў склад Ірландыі. Аглядальнікі не выключаюць, што ў такім выпадку ўэльсцам хутка давядзецца прымаць вызначальныя для краю рашэнні.



Фота www.topmejt.co.uk

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нурсултан Назарбаеў



Нязменны кіраўнік Казахстана 19 сакавіка абвясціў пра сваю адстаўку. Ён быў прэзідэнтам незалежнага Казахстана яшчэ з дня яго з'яўлення ў 1991 годзе. Але фактычна ўзначаліў былую савецкую рэспубліку яшчэ раней, у 1989-м, калі стаў першым сакратаром мясцовай Кампартыі.

Зрэшты, і пасля сыходу Назарбаеў захоўвае за сабой пасаду старшыні Савета бяспекі з яшчэ больш шырокімі паўнамоцтвамі, чым у прэзідэнта. Гэта стратэгічная пазіцыя, якая дазваляе яму кантраляваць усе сілавыя органы краіны і ў тым ліку служыць медыятарам паміж кланамі. Са словаў Назарбаева таксама вынікае, што гаворкі пра рэвалюцыйныя змены ў гэтай сістэме не ідзе. У тым ліку не будзе геапалітычнага развароту Казахстана.

Зрэшты, адстаўку Назарбаева з пасады прэзідэнта ўсё роўна можна назваць пачаткам транзіту ўлады, што з'яўлецца гістарычнай падзеяй. Да новых выбараў у наступным годзе выконваць абавязкі кіраўніка краіны будзе спікер сената парламента Казахстана. Цяпер гэтую пасаду займае Касым-Жамарт Такаеў, але стаць пераемнікам Назарбаева, калі верыць чуткам, найбольш шансаў мае Самат Абіш — пляменнік Назарбаева і першы намеснік старшыні Камітэта нацыянальнай бяспекі. Абіша апазіцыйныя СМІ краіны, дарэчы, называюць «казахскім Пуціным», паколькі ён скончыў расійскую акадэмію Службы знешняй разведкі.

### Рэджэп Таіп Эрдаган



Прэзідэнт Турцыі, лідар ісламісцкай Партыі развіцця і справядлівасці (АКР) адклаў усе справы дзеля мясцовых выбараў, якія пройдуць напрыканцы сакавіка.

Шмат хто лічыць іх гістарычнымі, паколькі ў кемалісцкай апазіцыі ёсць шанец упершыню за 15 гадоў набраць больш галасоў за АКР. Да таго ж гэтыя выбары стануць першым усенародным волевыяўленнем з моманту абрання Эрдагана ў чэрвені мінулага года прэзідэнтам з практычна неабмежаванымі паўнамоцтвамі.

Высокая стаўка выбараў дыктуе неразборлівасць метадаў. Эрдаган вырашыў мабілізаваць свой электарат за кошт дэманстрацыі відэа нядаўняга масавага забойства мусульман у новазеландскай мячэці. Відэа прадэманстравалі на вялікім экране ў горадзе Тэкірдаг падчас шматтысячнага мітынгу як доказ таго, што Захад ненавідзіць мусульманскі свет. Напрыканцы роліка з'явіўся фрагмент з выступам лідара кемалістаў, які асуджае ісламскі фундаменталізм. «Вось як выглядае наша апазіцыя», — пракаментаваў гэтыя кадры прысутны на мерапрыемстве Эрдаган.

Гледзячы па ўсім, лідар АКР трошкі перагнуў з «чорным піярам». Прынамсі, рэйтынгі яго партыі не палепшыліся. У тым ліку ў Анкары і ў Стамбуле. Між тым страта кантролю над гэтымі гарадамі, дзе пражывае трацiна насельніцтва краіны і знаходзіцца асноўныя крыніцы папаўнення дзяржбюджэту, можа кепска паўплываць на статус і рэсурсы партыі Эрдагана.

### Антоніа Таяні



Яшчэ не забылася скандальная цытата палітыка пра прыналежнасць Істрыі (частка Славеніі) і Далмацыі (частка Харватыі) італьянскай дзяржаве, як спікер еўрапейскага парламенту, сябра італьянскай партыі Forza Italia, зноў адзначыўся.

На гэты раз Таяні падзяліўся сваімі думкамі наконт фігуры Беніта Мусаліні. «Дучэ быў не такім ужо кепскім. Нягледзячы на тое, што Беніта Мусаліні не пабудаваў, як Адольф Гітлер, аўтамабільныя дарогі, некаторыя добрыя рэчы ён зрабіў — будынкі, масты, спартовыя аб'екты, банкаўскую сістэму і іншае», — сказаў ён у інтэрв'ю дзяржаўнаму радыё. Увогуле, адзінай памылкай Мусаліні, як кажа палітык, была падтрымка вайсковай авантуры Гітлера.

Хаця пры гэтым ён дадаў, што «не падзяляе яго (Мусаліні) мысленне», грамадскасць такіх пасажаў не зразумела. Аматару мастоў і будынкаў Дучэ прыгадваюць крывавы шлях фашыстаў да ўлады, пераслед апазіцыі і гэтак далей. Яшчэ далей пайшлі фракцыі левых партый у Еўрапарламенце, якія запатрабавалі адстаўкі спікера.

Аднак пакуль такі сцэнар малаРэальны. Таяні быў абраны спікерам ад фракцыі кансерватараў, якім, відавочна, не трэба скандалу і антырэкламы напярэдадні хуткіх травеньскіх выбараў у Еўрапарламент.

Марат ГАРАВЫ

# Брэст: ямы ў зямлі і памяці…

**Амаль два месяцы Брэст штодня наведваюць журналісты айчынных і замежных СМІ. На тэрыторыі Вялікага гета часоў Другой сусветнай вайны на рагу вуліцы Куйбышава і праспекта Машэрава, дзе ўзводзіцца жылы «Прыбужскі квартал», было выяўлена вялікае пахаванне ахвяраў Халакосту. У сувязі з гэтым сваю заклапочанасць выказаў Сусветны яўрэйскі кангрэс.**



**Так выглядае яма ў квартале забудовы, дзе былі знойдзены чарговыя парэшткі 990 ахвяраў Халакосту.** Здымак Юрася Макарчука




## Раскопкі працягнуцца

БелТА распаўсюдзіла заяву старшыні Брэсцкага гарвыканкаму Аляксандра Рагачука пра тое, што ўзвядзенне «Прыбужскага кварталу» працягнецца толькі пасля завяршэння раскопак; месца ямы, якая знаходзіцца за некалькі метраў ад будаўнічага катлавану, стане зялёнай зонай, перапахаванне парэшткаў забітых яўрэяў будзе праведзенае на адных з могілак Брэста згодна з традыцыямі іудаізму, а памяць пра ахвяраў вайны будзе ўшанаваная.

Паводле спадара Рагачука, з 17 студзеня спецыялізаванае падраздзяленне Міністэрства абароны падняло з ямы парэшткі 990 ахвяраў. Прычым, як падкрэсліў старшыня Брэсцкага гарвыканкаму, гэтай лічбы ніхто не чакаў, яна стала шокам для грамадскасці, навукоўцаў і чыноўнікаў.

Заяву Аляксандра Рагачука пракаментавала знаўца старога Брэста, доктар мастацтвазнаўства ў галіне ўрбаністыкі і архітэктуры Ірына Лаўроўская, якая нарадзілася ў гэтым горадзе. Паводле яе меркавання, каб пазбегнуць шоку ад нечаканасцяў, падчас увасаблення праекту трэба было кіравацца патрабаваннем аб ахове «будынкаў і збудаванняў, планіровачнай структуры, ландшафту і культурнага слою» гістарычна-культурнай каштоўнасці нацыянальнага значэння «Гістарычны цэнтр Брэста», унесенай у Дзяржаўны спіс гістарычна-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.

Згодна з гэтымі патрабаваннямі, перад праектаваннем «Прыбужскага кварталу» трэба было правесці навуковыя даследаванні — архіўныя і археалагічныя. Аналіз вынікаў гэтых даследаванняў, улічаны пры падрыхтоўцы праекту, дазваляў пазбегнуць любых нечаканасцяў падчас будаўніцтва, падкрэсліла навукоўца.

## Узгадаем мінулае

Прывілей князя Вітаўта ад 1 ліпеня 1388 года брэсцкім яўрэям стаў падставай для асяласці іудзеяў у Вялікім Княстве Літоўскім. У наступныя стагоддзі горад быў цэнтрам яўрэйскага жыцця ВКЛ. Менавіта тут у 1623 годзе адбылося першае пасяджэнне Літоўскага Вааду — галоўнага органу самакіравання яўрэйскіх суполак Вялікага Княства Літоўскага.

З цягам часу Брэст (на ідыш Брыск) стаў амаль цалкам габрэйскім, бо працэнт іудзеяў у ім даходзіў да 89% ад колькасці ўсіх гараджанаў. Славу гораду здабылі, найперш, яўрэі-купцы, якія ў XV–XVI стагоддзях гандлявалі на шляху ад Венецыі да Вільні, ад Гданьска да Кіева. Адным з іх быў купец і ўпраўляючы караля Стэфана Баторыя Шауль Валь бен Егуда (1541–1617) — сын рабіна з італьянскай Падуі. Прадпрымальным яўрэям належыць гонар рэалізацыі праекту пабудовы моста праз Буг (1513), які дапамог звязаць Вільню з Кракавам. Далёка за межамі горада былі вядомыя тавары брэсцкіх рамеснікаў, якія, сярод іншага, выраблялі якасныя абутак, капелюшы і шапкі, кілбасы і печыва, бочкі, калёсы і тачкі.

На пачатку XX стагоддзя Беларусь мела найбольшую шчыльнасць яўрэйскага гарадскога насельніцтва ў свеце. Вось чаму і па сённяшні ў шэрагу месцаў краіны самабытная габрэйская традыцыя захавалася ў архітэктуры мацэваў (іудзейскіх стэлаў-надмагілляў) і сінагог (духоўных святыняў этнасу).

Аднак, як зазначае Ірына Лаўроўская, дзеля стварэння магутнай фартэцыі на заходніх межах Расійскай імперыі ў 1830-я гады быў цалкам знішчаны сярэднявечны Брэст з яго велічнымі помнікамі архітэктуры. Сярод іх — старажытны замак, 20 храмаў, рынак з ратушай, калегіумам езуітаў, палацамі Сапегаў, Радзівілаў, Чартарыйскіх і іншымі ўнікальнымі будынкамі. Так закладаліся асноўныя прынцыпы каланіяльнай горадабудаўнічай практыкі ў Беларусі: гвалтоўная змена функцыяў старых ансамбляў, разбурэнне важных у духоўным і гістарычным сэнсам аб'ектаў, наўмыснае стварэнне эстэтычнага канфлікту праз радыкальную стылістычную змену альбо ўзвядзенне чужародных і несумаштабных збудаванняў у традыцыйным высокамастацкім асяродку.

У 1836 годзе горад наведаў імператар Мікалай І з нашчадкам — будучым Аляксандрам ІІ. Даследчыца яўрэйскай спадчыны Беларусі Іна Соркіна звяртае ўвагу, што прычынай цікаўнасці манарха да правінцыйнага Брэста было заснаванне тут магутнай крэпасці. Яе пабудова павінна была ажыццявіцца на месцы старога горада. За некалькі месяцаў быў разбураны ўвесь звычайны лад паўсядзённага жыцця, людзі прымусова былі сагнаныя з месцаў, дзе жылі іх продкі. Але галоўная трагедыя была наперадзе. Калі разбурэнне старога горада азначала давядзенне яго жыхароў да галечы, дык перанос у іншае месца старых яўрэйскіх могілак з іх 500-гадовай гісторыяй выклікалі жах і абурэнне месцічаў. Нягледзячы на ўсе высілкі яўрэяў пакінуць памерлых у спакоі «ўлады засталіся няўмольнымі».

Так, насуперак іудзейскай традыцыі, у 1842 годзе старыя яўрэйскія могілкі (на ідыш — бісхайм ці кіркут, на іўрыт — бейт альмін ці бейт кварот) былі знішчаныя, а парэшткі іудзеяў былі перанесеныя на новае месца. Зрэшты, і тут кіркут пратрымаўся толькі стагоддзе, бо ў 1950–1970-я гады на яго месцы пабудавалі стадыён «Лакаматыў». У выніку двух пераносаў яўрэйскіх могілак загінулі і шматлікія мацэвы, якімі пасля вайны масцілі фундаменты дамоў і брукавалі вуліцы горада. На сёння захавалася каля тысячы гэтых сведчанняў сакральнай культуры яўрэйства, якія мяркуецца ўсталяваць у лапідарыі каля стадыёну «Лакаматыў».

## Ямы з ахвярамі гета знаходзілі і раней

Ірына Лаўроўская ўзгадвае: «Прыкладна ў пяцігадовым узросце ўпершыню ўбачыла яму з парэшткамі вязняў гарадскога гета. Насуперак забароне бабулі выходзіць з дому, мы са старэйшай сястрой Людмілай усё ж прыбеглі да ямы. Недалёка, на вуліцы Куйбышава, там, дзе зараз будынак «Брэсткнігі», стаяў натоўп. Было ціха, шмат хто плакаў. Я стала паміж дарослымі і глядзела на целы жанчын і мужчын, якія ляжалі ў два шэрагі тварамі ніцма на глыбіні каля паўтара метра ў вялізнай яме — прыкладна 4 на 20 метраў. Аднаго з мужчын я добра запомніла — на ім былі брыджы і высокія гетры ў клетачку. Сястра стаяла ля самай ямы. Яна — тады ўжо піянерка — заўважыла нешта вельмі страшнае: целы выцягвалі віламі, а савецкі жаўнер выбіваў з чарапоў забітых людзей залатыя каронкі. На жаль, тады не было каму ідэнтыфікаваць парэшткі гэтых ахвяраў нацызму.

У сярэдзіне 1970-х гадоў, калі на Куйбышава будавалі панэльны дзевяціпавярховік, насупраць першай ямы знайшлі другую, а цяпер — наступную. Прычым усе пахаванні знаходзіліся ў непасрэднай блізкасці ад будынкаў сінагог. Першая яма — ля існуючай сінагогі Асіра, другая — каля неіснуючага будынку святыні Джоэль Вінаград.

Што адчуваю зараз? Вялікі боль і расчараванне, бо новае пакаленне гараджан адмаўляе бязмоўным ахвярам Халакосту ў праве захаваць сваю асабістасць, а можа і вярнуць свае імёны. Не ведаю, з якой прычыны, але парэшткі забітых змешваюцца, бо складваюцца ў скрыні не па прыналежнасці да асобных касцякоў, а па відах костак. І гэта пры тым, што мы ўпершыню маем магчымасць персаналізаваць парэшткі забітых яўрэяў з дапамогай аналізу ДНК. Але сумняваюся, што гэта будзе зроблена нашай дзяржавай…»

## Што трэба рабіць?

Паводле меркавання Ірыны Лаўроўскай, каб зняць вастрыню гэтай форс-мажорнай сітуацыі, патрэбны дальнабачныя прафесіяналы, якія давяраюць неабыякавым людзям. Калі мясцовыя ўлады вызначыліся і сапраўды адмовяцца ад будаўніцтва на пляцы каля расстрэльнай ямы, можна звярнуцца да свету з просьбаю аб дапамозе ў пошуку годнага выйсця з сітуацыі. «Пры шчырай і адкрытай пазіцыі гарадскія ўлады хутчэй знойдуць разуменне і падтрымку», — лічыць навукоўца.

На яе думку, гэтая жахлівая і непрывабная гісторыя можа павярнуцца на карысць Брэста пры адной умове — сумленным і адкрытым дыялогу.

## У якасці пасляслоўя

На маё меркаванне, у пытанні ўшанавання памяці мясцовага яўрэйства гораду бракуе сістэмнага падыходу, а менавіта падрыхтоўкі праекту Праграмы вяртання габрэйскай спадчыны і ягонага зацвярджэння.

Сярод справаў гэтага праекту бачу сціплы мемарыяльны камень у цэнтры горада «Удзячныя берасцейцы — сваім землякам-яўрэям», у якім адлюстраваны больш чым 600-гадовы ўнёсак мясцовага яўрэйства ў гісторыю Брэста, амаль поўнае знішчэнне яўрэйскай супольнасці падчас Халакосту, а таксама той факт, што значная колькасць камяніцаў у гістарычным цэнтры горада некалі належала сем'ям яўрэяў.

Такі горад, як Брэст, заслугоўвае адпаведнага Музею яўрэйскай культуры ў аднаўленым будынку былой гарадской сінагогі, якая вылучаецца выбітнай архітэктурай. У якасці такога будынку можа быць абраная былая сінагога Асіра на вуліцы Куйбышава.

Паколькі горад мае статус свабоднай эканамічнай зоны, у ім пажадана заснаваць штогадовы Міжнародны фэст яўрэйскай культуры дыяспары.

Для гістарычнага цэнтру Брэста трэба распрацаваць стэнды з неабходнай даведачнай інфармацыяй, у тым ліку з планам гэтай тэрыторыі і пазначэннем найбольш цікавых аб'ектаў яе мінуўшчыны, у тым ліку яўрэйскай — існуючай і страчанай.

На месцы ямы гарадскія ўлады мяркуюць зрабіць зялёны газон. Як мне падаецца, праект ушанавання памяці ахвяраў нацызму на трэцяй яме павінен быць сціплы, лаканічны і кранальны.

Гэтыя і іншыя захады будуць спрыяць выхаванню гістарычнай памяці, адсутнасць якой — цяжкая духоўная хвароба. Бо менавіта памяць трымае нас у бясконцым ланцугу пакаленняў. Без усведамлення гэтай памяці пра мінуўшчыну ў чалавека, нацыі і дзяржавы папросту няма не толькі аніякай будучыні, але нават і спадзявання на яе.

# Рызыкавалі жыццём і былі забытыя: як вяртаюць імёны беларускіх Праведнікаў

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Вайна ломіць законы маралі. Часам нават уратаванне аднаго жыцця ўзамен на згубу іншага немагчыма асудзіць. Але ўсё ж былі і тыя, хто пад пагрозай сабе і сваім блізкім ратаваў людзей, якіх выраклі на знішчэнне. Пазней іх назвалі Праведнікамі народаў свету.**



Фота www.culture

## Цуд як выбар

Дапамога яўрэям на акупаваных тэрыторыях у часы Другой сусветнай вайны каралася смерцю. Матывы, якія кіравалі выратавальнікамі ў такіх немагчымых умовах, спрабуюць акрэсліць аўтары выставы «На загад сэрца», створанай Міжнароднай школай вывучэння Халакосту Яд Вашэм (Ізраіль). Экспазіцыю да 31 сакавіка можна ўбачыць у Гістарычнай майстэрні імя Леаніда Левіна ў Мінску (вуліца Сухая, 25). На выставе прадстаўлены некалькі гісторый ратаванняў з Літвы, Латвіі, Украіны, Польшчы і, вядома, Беларусі. Усе яны разгортваліся пры розных абставінах, але яднае іх тое, што, пэўна, можна назваць цудам.

Напрыклад, успаміны адной з беларускіх Праведніц Раісы Сямашка. Некаторыя кваліфікаваныя партыйныя работнікі яўрэйскага паходжання маглі трапіць у эвакуацыю. Але гэта не гарантавала ўратаванне ўсёй сям'і. Раіса Сямашка распавядала пра сваю аднакласніцу Іду, маці якой працавала ў НКУС і была раптоўна эвакуяваная — так, што нават не мела магчымасці зайсці дадому і забраць маленькую дачку. Дзяўчынка разам з бабуляй уцяклі з Мінску, але сярод мітусні першых дзён вайны згубіліся. У выніку Іда самастойна вярнулася ў Мінск, знайшла кватэру Сямашкаў і на працягу ўсёй акупацыі хавалася ў іх.

Часцей за ўсё арганізаваных сістэм ратунку не было, на гэта адважваліся адзінкі. Але часам такія спантанныя схемы складваліся. Адна з іх звязаная з імем Васіля Арлова, які працаваў у аддзеле адукацыі і займаўся размеркаваннем дзяцей у дзіцячыя дамы. Таксама ён мусіў знаходзіць яўрэйскіх дзяцей і адпраўляць іх у гета, але ён гэтага не рабіў, а накіроўваў іх у дзіцячыя дамы да даверaных асобаў.

Ці гісторыя Мікалая Кісялёва, які трапіў у палон, але змог уцячы і далучыўся да партызанскага руху. Ён стварыў лагер, куды сцякаліся чырвонаармейцы, якія ўцяклі з палону, а таксама цывільнае насельніцтва — пераважна яўрэі з мястэчка Даўгінава. У 1943 годзе гэтых людзей вырашылі накіраваць за лінію фронту. Яны пешшу рушылі ў дарогу, за тры месяцы прайшлі сотні кіламетраў і дайшлі да расійскага горада Вялікія Лукі. Такім чынам удалося ўратаваць 217 чалавек.

Часта галоўным чыннікам выратавання былі асабістыя знаёмствы і добрасуседства. Так, усе сваякі Саламона Жукоўскага загінулі ў адным з гета ў Гродзенскай вобласці, хлопчыку ўдалося ўцячы, і яго хавала ягоная нянька.

Самі яўрэі амаль не мелі магчымасці дапамагаць сваім супляменнікам. Тым не менш, і такія выпадкі здараліся. Бадай, адна з самых вядомых падобных гісторый звязаная з імем Освальда Руфайзена (брата Даніэля), які стаў прататыпам героя раману Людмілы Уліцкай Даніэля Штайна. Трапіўшы ў мястэчка Мір, падчас акупацыі ён працаваў перакладчыкам у нямецкай жандармерыі, што давала яму доступ да інфармацыі. Дзякуючы гэтаму ён змог папярэдзіць яўрэяў з Мірскага гета аб яго ліквідацыі і ўратаваць некалькі соцень жыццяў.




Фота НЧ

Сюды ж можна аднесці феномен яўрэйскіх сямейных партызанскіх атрадаў, мэтай якіх было не столькі вядзенне баявых дзеянняў, колькі выратаванне людзей. Адзін з найбольш вядомых з такіх атрадаў быў утвораны братамі Бельскімі ўвосень 1942 года. Да 1944 года ў атрадзе змаглі выратавацца 1200 чалавек.

## Гісторыя патрабуе працягу

У савецкі час тэму выратавання яўрэяў у Беларусі падчас вайны амаль не згадвалі. Так адбывалася з-за агульнай ідэалагічнай сітуацыі, калі не прынята было казаць пра жыццё пад акупацыяй, немагчыма было гучна згадваць аб ратаванні тых, каго абмяжоўвалі ў штодзённасці праз гэтак званую «пятую графу», праз спецыфіку адносін СССР з Ізраілем. Хаця пасля 1991 года на вывучэнне тэмы не было абмежаванняў, яна застаецца яшчэ недастаткова даследаванай.

Шэраг арганізацый ставіць за мэту папулярызацыю тэмы ў грамадстве. Больш за дзесяць гадоў стварэннем спісу беларускіх Праведнікаў займаецца Музей гісторыі яўрэяў Беларусі пад эгідай Саюза беларускіх яўрэйскіх арганізацый і абшчын і Джоінта. Гістарычная майстэрня імя Леаніда Левіна ў кааперацыі з Беларускім архівам вуснай гісторыі з удзелам валанцёраў-даследчыкаў здолела запісаць больш за два дзясяткі гісторый беларускіх Праведнікаў народаў свету і відэаінтэрв'ю, якія цяпер даступныя анлайн.

Апроч таго летась быў створаны Аргкамітэт па ўсталяванні помніка Праведнікам народаў свету з Беларусі ў Мінску, куды ўвайшлі прадстаўнікі шэрагу грамадскіх арганізацый. Праект быў распрацаваны яшчэ Леанідам Левіным і мусіў быць часткай мемарыялу «Яма», але тады на яго ўвасабленне не хапіла сродкаў. Цяпер гэтую працу вырашылі давесці да завяршэння, праўда, казаць пра нейкія тэрміны пакуль рана: праект знаходзіцца на стадыі ўзгаднення.

Падрыхтоўка найбольш поўнага спісу беларускіх Праведнікаў з'яўляецца складаным пытаннем для неабыякавых. Нярэдка падача на званне ўжо немагчымая, бо той, каго ратавалі, загінуў падчас вайны, ці самога ратавальніка не ўдалося знайсці, невядома дакладнае яго імя. Пошукі новых прозвішчаў абцяжарваюцца тым, што тыя, хто маглі б сведчыць пра подзвіг, пераважна ўжо сышлі з гэтага свету. Вуснагістарычны падыход пры зборы дадзенай інфармацыі таксама накладае няпросты адбітак на верыфікацыю звестак.

Паводле афіцыйнага сайту Яд Вашэм, у нашай краіне 650 Праведнікаў. Аднак падлікі даследчыкаў паказваюць, што іх колькасць можа сягаць 838 чалавек. Разыходжанне тлумачыцца тым, што некаторыя Праведнікі, якія атрымалі званне за выратаванне на цяперашняй тэрыторыі Беларусі, могуць знаходзіцца ў спісах Яд Вашэм па іншых краінах. Гэта можа адбывацца праз блытаніну ў аднясенні назваў населеных пунктаў, дзе адбылося выратаванне, да канкрэтных дзяржаў, бо складана разбірацца з улікам істотных зменаў з часу вайны ў адміністрацыйным дзяленні рэгіёна.

Як распавяла «Новаму Часу» кіраўніца Гістарычнай майстэрні Ірына Кашталян, блытаніна з месцамі найчасцей адбывалася з нашымі суседзямі — Польшчай, Расіяй, Украінай. Важны гістарычны факт уплыву: Заходняя Беларусь да 1939 года знаходзілася ў складзе Польшчы. Юрыдычна беларускія Праведнікі з гэтых тэрыторый могуць дасюль разглядацца як польскія, не робіцца карэкціроўка пад сучасныя дзяржаўныя межы.

Яшчэ адно няпростае пытанне — вызначэнне правільнага напісання імёнаў Праведнікаў. Памылкі маглі патрапляць пры запаўненні анкеты ў Яд Вашэм, у выніку перакладаў з розных моваў на іўрыт для прысваення звання і пасля зваротнага перакладу. Тым не менш, неабыякавыя адмыслоўцы стараюцца паляпшаць і дапаўняць беларускі спіс Праведнікаў і надалей.

На жаль, гісторыі выратавання яўрэяў — гэта не заўжды пра гераізм: не ўсе спробы ратаванняў былі ўдалымі, шмат з іх трагічна заканчваліся праз даносы. Там, дзе адны гатовыя былі ахвяраваць дзеля іншых уласным жыццём, другія шукалі выгаду, пераступаючы цераз усе законы маралі і чалавечнасці. Часам людзей выратоўвалі, кіруючыся меркантыльнымі інтарэсамі, многіх свядома пакідалі на волю лёсу... Тым больш каштоўнымі і вартымі для даследавання з'яўляюцца гісторыі беларускіх Праведнікаў.

Такім людзям на ўзроўні дзяржавы маглі б даць званне Герояў Беларусі, бо яны паказалі прыклад асабістай мужнасці, калі маглі за гэта страціць усё, мяркуе Ірына Кашталян. Таму што ёсць і гісторыі, калі сем'і забівалі за тое, што яны хавалі яўрэяў.

## Даведка

Праведнікі народаў свету — ганаровае званне, якое прысуджаецца Яд Вашэм людзям неяўрэйскай нацыянальнасці, што свядома ратавалі яўрэяў у гады Халакосту.

Яд Вашэм, калі прымае рашэнне пра прысуджэнні звання Праведніка народаў свету, улічвае 4 віды дапамогі яўрэям:

1. Дапамога яўрэю ва ўцёках у бяспечнае месца ці за мяжу. Садзеянне пры гэтым у пераадоленні тых перашкод, з якімі былі звязаныя паездкі і пераход мяжы.
2. Забеспячэнне яўрэю магчымасці выдаць сябе за неяўрэя — прадастаўленне яму фальшывага пасведчання асобы ці пасведчання аб хрышчэнні.
3. Прадастаўленне прытулку, які мог забяспечыць дастаткова надзейную абарону ад знешняга свету.
4. Усынаўленне (удачарэнне) яўрэйскіх дзяцей у гады вайны.

Асноўным патрабаваннем для разгляду справы ў камісіі па прысваенні звання Праведніка з'яўляецца сведчанне выратаванага аб характары дапамогі. Усяго ў некалькіх выпадках камісія прыняла ў якасці абгрунтавання архіўныя дакументы як дастатковы доказ. Паказанні сведак з'яўляюцца не толькі неабходным крытэрам, але і часта адзіным доказам.

У гонар кожнага прызнанага Праведнікам праводзіцца цырымонія ўзнагароджання, на якой самому Праведніку або яго спадкаемцам уручаецца ганаровы сертыфікат і імянны медаль. Імёны Праведнікаў увекавечваюць у Яд Вашэм на Гары Памяці ў Ерусаліме.

# «Дзень Волі — гэта Вясна!»



**Па гарызанталі:** 1. Чалавек, які любіць палемізаваць. 5. «... Вясна звініць ручаінамі ў полі,//... Вясна сястра нашай Волі». З верша Уладзіміра Някляева «... Вясна». 9. Дакумент, запіс пра які-небудзь юрыдычны факт. 10. «... здрадная змовай // Беларусь не знішчаць,// Покуль будуць: Адамовіч,// Быкаў ды Янішчыц». З верша Міхася Кавыля «Беларусь, Беларусь». 11. Стары сасновы лес. 12. Пра вялікага, поўнага чалавека (размоўнае, неадабр.). 14. «Я веру ў ... мой смелы,// Сыны твае скрозь ночы муць// Штандар наш бел-чырвона-белы// Да перамогі данясуць». З паэмы Уладзіміра Клішэвіча «Васіль Каліна». 18. Ядзім хлеб траякі: ..., белы і ніякі (прыказка). 19. Рамка. 20. ...-сапрана. Жаночы голас. 21. Павышаная нервовая ўзбуджанасць. 23. «Дваццаць пятага сакавіка — // Наша ..., пароль і прысяга». З верша Рыгора Барадуліна «Дваццаць пятага сакавіка». 26. «Зрабі свабодная, зрабі шчаслівай// Краіну нашу і наш народ!» З верша Наталлі Арсенневай «Магутны ...». 30. Жоўта-чырвоная фарба. 31. Ваеннаслужачы. 32. Лепш адна пчала, чым ... мух. 33. Крыга. 34. Карэнная жыхарка адной з еўрапейскіх краін.

**Па вертыкалі:** 1. «Мы выйдзем шчыльнымі радамі// На вольны родны свой ...». З нацыянальнага гімна БНР (словы Макара Краўцова, музыка Уладзіміра Тэраўскага). 2. Прыбор для вымярэння глыбіні мора. 3. «Ты — мая доля вячыстая,//... мая — Беларусь!». З верша Янкі Золака «Белая, светлая, чыстая». 4. «Таўклі чырвоным каты ботам// Алеся Звонака й Чарота.// Спаткаў таксама лёс свой чорны// За кратамі паэт Кляшторны.// Далёкі Ўсход, нямы і дзікі,// Закрыў зямлёй шкілет Хадыкі». З верша Уладзіміра Клішэвіча «Менская ...». 5. Дэкаратыўная ваза для кветкавага гаршчка. 6. «... гатовы, струны тугі,// Кроў у жылах закіпае». З верша Цёткі (Алаізы Пашкевіч) «Скрыпка». 7. «..., ..., небасхіл,// Хустка васільковая.// Пакацілася клубком// Сонейка вясновае». З верша Лідзіі Палазавай «Вясна». 8. «Адна толькі ...: зямля і Радзіма.// Адна толькі вера: ў высокі палёт». З верша Ларысы Геніюш «Лёт намечаны сэрцам». 13. «Пад бел-чырвона-белым сцягам// Ляглі сыны за ... волі». З верша Уладзіміра Дудзіцкага «Прысяга». 15. «Шпакі вяртаюцца дамоў — // Не вабіць іх далёкі ...». З верша Алеся Салаўя «Домік у Менску». 16. «... беларускія, дужэйце !// Вы спраглых душ валадары.// Прыкмецяць вас на цэлым свеце,// Калі не будзеце служыць вы пры двары». З верша Масея Сяднёва «Беларускім паэтам». 17. «Я закахаўся ў матчыну мову, а ёю пахнуць хлеб і ...!» Сяргей Грахоўскі. 20. «І расцвітае сон-трава, // І маці-й-..., і крокус». З верша Таццяны Дзям'янавай «Якія слаўныя дзянькі!». 22. «Галоўным быў не хлеб. Галоўнай была ...». Уладзімір Караткевіч. 24. «Дзень Волі — гэта ...!// Гэта нашых сардэц Адраджэнне!». З верша Крывіча Вольнага «Дзень Волі!». 25. Смерч над сушай. 27. «Пад штандар бел-чырвона-белы// Гартуйся, ..., адважна, смела, // Адважных, смелых вяроў!» З верша Уладзіміра Жылкі «Покліч». 28. Перавоз куды-небудзь. 29. «Мой бел-чырвона-белы ... — // зямлі маёй краса і слава!» З верша Алеся Салаўя «Трыялет». 32. Масленіца-палізуха: ... і масла палізала (прыказка).

**Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Родная мова, цудоўная мова» (НЧ №7 ад 22 лютага):**

**Па гарызанталі:** 1. Каталог. 5. Запавет. 10. Мова. 11. Неба. 12. Багаслоўе. 15. Ружаны. 16. Аснова. 19. Народ. 20. Слова. 23. Лядзяк. 25. Актава. 29. Бярозавік. 31. Удых. 32. Саюз. 33. Багацце. 34. Скарына.

**Па вертыкалі:** 2. Айва. 3. Літары. 4. Гонар. 5. Зямля. 6. Праўда. 7. Егер. 8. Імперыя. 9. Кантата. 13. Мадэрнізм. 14. Анемометр. 17. Ода. 18. Ост. 21. Беларус. 22. Афарызм. 24. Клявец. 25. Апіска. 26. Голле. 27. Нарыс. 28. Жыта. 30. Баян.

# БагатаДата

**Што вы ведаеце пра Стракапытаўскае паўстанне? Яго стагоддзе адзначаецца на наступным тыдні. А што яшчэ было цікавага?**

## 23 сакавіка

**Сусветны метэаралагічны дзень.**

**1899.** У пасёлку Жалудок Шчучынскага раёна нарадзілася акторка Вольга Галіна. Гэта псеўданім, па мужы — Александроўская, у дзявоцтве — Грудзінская. У 1923–1962 гадах — акторка Купалаўскага тэатра. Яна пачынала працаваць пад кіраўніцтвам Еўсцігнея Міровіча.

## 24 сакавіка

**1794.** Пачалося паўстанне народаў Рэчы Паспалітай пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі супраць расійскай акупацыі.

**1889.** У вёсцы Дулічы Капыльскага раёна нарадзіўся дзяржаўны дзеяч БССР Аляксандр Сташэўскі. У 1920-я гады быў наркамам унутраных справаў, затым наркамам юстыцыі і пракурорам БССР. Неўзабаве быў абвінавачаны як удзельнік «антыпартыйнай» групы Ігнатоўскага — Жылуновіча, зняты з пасады і прызначаны старшынёй Бабруйскага райвыканкама, яшчэ пазней — загадчыкам рабфаку Белдзяржуніверсітэта, потым дырэктарам Гомельскага сельскагаспадарчага педінстытута. У выніку расстраляны 29 кастрычніка 1937-га.

**1919.** У Гомелі пачалося ўзброенае антысавецкае выступленне, вядомае як Стракапытаўскае паўстанне. Бунт праз незадаволенасць адпраўкай на фронт распачалі чырвонаармейскія палкі, сфармаваныя пад Бранскам і Тулай, на чале з былым штабс-капітанам царскай арміі, эсэрам Уладзімірам Стракапытавым. Жаўнеры патрабавалі паравозы, каб вярнуцца на радзіму. Але потым зразумелі, што паасобку іх чакаюць рэпрэсіі, ды атабарыліся ў Гомелі, захапіўшы чыгуначны вузел, гарадскую турму, тэлеграф, артылерыйскія склады. Пад атакамі Чырвонай Арміі каля 6 тысяч паўстанцаў адступілі да Украінскай Народнай Рэспублікі, дзе працягнулі барацьбу з бальшавікамі, ваявалі ў арміі Юдзеніча і ў атрадзе БНР Булак-Балаховіча.

## 25 сакавіка

Дзень Волі, 101-я гадавіна абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Прынятай у гэты дзень у будынку Сялянскага пазямельнага банка на мінскай вуліцы Серпухаўская (цяпер — Валадарскага, 9) Трэцяй Устаўнай граматай БНР абвяшчалася незалежнай дзяржавай у межах той тэрыторыі, дзе пражывае пераважна беларускае насельніцтва.

## 26 сакавіка

**1969.** У Оршы нарадзіўся Васіль Мацюшэўскі, беларускі фінансіст і дзяржаўны дзеяч. Працаваў у МЗС і Нацбанку. У 2014–2018 гадах — віцэ-прэм'ер. Цяпер узначальвае адзін з банкаў.

## 27 сакавіка

**Сусветны дзень тэатра.**

**1909.** У мястэчку Козырава (цяпер гэта ўжо Мінск), нарадзіўся паэт і перакладчык Валерый Маракоў. Расстраляны 29 кастрычніка 1937 года яшчэ з некалькімі дзясяткамі літаратараў. Валерый Маракоў — дзядзька вядомага даследчыка рэпрэсіяў Леаніда Маракова.

**1989.** Нацыянальны аэрапорт «Мінск», тады аэрапорт «Мінск–2», набыў міжнародны статус: з яго быў здзейснены рэйс на Берлін.

## 28 сакавіка

**1934.** У Зялёнай Дуброве на Міншчыне нарадзіўся Кастусь Цвірка, паэт, перакладчык, этнограф, галоўны рэдактар і кіраўнік выдавецтва «Беларускі кнігазбор».

**1959.** У Оршы нарадзіўся спявак, народны артыст Беларусі Якаў Навуменка. Выступаў сольна, а таксама ў складах Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя Жыновіча і Нацыянальнага аркестра пад кіраўніцтвам Фінберга. Загінуў у Крыме ўлетку 2012 года падчас бойкі на канцэрце.

## 29 сакавіка

**1989.** Ва ўзросце 35 гадоў пайшоў з жыцця адзін з самых лепшых беларускіх футбалістаў у гісторыі Аляксандр Пракапенка (па мянушцы Пракоп). Пракапенка — чэмпіён СССР 1982 года ў складзе мінскага «Дынама» і бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў–1980.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №450

Падпісана да друку 22.03.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.